
Міхал Тхарэўскі ➔4

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714


На Вадохрышча ➔ 12

http://niva.iig.pl
redakcja@niva.iig.pl

№ 06 (2908) Год LVII | Беласток, 5 лютага 2012 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

**Беларускія і польскія калядкі 20 студзеня пачулі яшчэ раз жыхары Гарадка на вечарыне „Шчодры вечар вам і нам” у Гарадоцкім цэнтры культуры — Доме культуры імя Кастуся Каліноўскага.**



# Добры вечар нам і вам у Гарадку

Тэкст і фота Міры ЛУКШЫ

— Добры вечар — шчодры вечар. Гэтым сардэчным заклікам вітаем спадарства на нашым штогадовым калядным аглядзе, — прывітаў шматлюдную публіку дырэктар Гміннага цэнтра культуры ў Гарадку Юры Хмялеўскі пасля супольнага адспявання калядкі „Неба і зямля” калектывамі, якія дзейнічаюць пры доме культуры. — Спяванне калядак, пастаралак і рэлігійных песень — у пастаяннай традыцыі, культываванай і намі ў гэтыя святочныя дні. Калядкі гучаць у царквах, касцёлах, па радыё, спяваем іх за сямейным сталом... Калядкі з'яўляюцца прыгожым спалучэннем рэлігійнага і грамадскага, культурнага і сямейнага жыцця. У нашай гміне гэта вельмі вялікае, шматкультурнае багацце — спяваюцца калядкі праваслаўныя і каталіцкія, беларускія і польскія. Сённяшняя імпрэза ўжо ўрасла ў наш культурны каляндар і неадменна карыстаецца вялікім поспехам і папулярнасцю, што бачым і сягоння. У мінулым годзе больш разнастайным зрабілі мы наш вечар калядак, даючы супольную праграму ў выглядзе канцэрта „Шчодры вечар”, дзе калядкі прагучалі не толькі ў традыцыйным, народным выкананні, да якога мы прывыклі, а ў нават эстрадным ці нават крыху мацнейшым, што і сёння будзем прэзентаваць на канец нашай імпрэзы. Наша мерапрыемства ўжо другі год фінансуе Міністэрства адміністрацыі і лічбавізацыі з пулькі на праекты падтрымкі беларускай меншасці. Наш праект ахоплівае таксама Крынкі і Міхалова.

На канцэрт прыбылі духоўныя асобы, самаўрадаўцы на чале са старшынёй Рады Гміны Вячаславам Госцікам, войтам, кіраўнікамі гмінных самаўрадавых адзінак, і сапраўды імпазантная па ліку публіка. Дырэктар усім пажадаў, каб новы 2012 год быў сапраўды шчодрым кожнага дня ды каб быў спакойны. Асабліва павіншаваў бабуль і дзядуль, якіх святы былі ў наступныя дні, а яны ў гэты святочны дзень складалі ці не большасць гасцей — сеніёры выступалі на сцэне, апладзіравалі сваім унукам. Спачатку, як вопытны каляднік, спадар дырэктар спытаўся аб згоду ў публікі: „Гаспадар і гаспадыня! Дазвольце паспяваць, Хрыста праславіць! Вас добра весяліць, вам і нам вясёлым быць. Спяваць?” — „Спяваць!” — грымнула зала.

Сустрэчу вяла маладзенькая Аня Трахімчык, якая ўсё часцей вядзе беларускамоўныя імпрэзы ў Гарадку. Запрасіла першымі на сцэну дашкольнікаў (якія аж кіпелі выступіць перад такой вялікай публікай у агромнай, сучаснай гледзельнай зале аднаўленага дома культуры), пад кіраўніцтвам Лілі Герасімчук, Юстыны Васілеўскай і Барбары Філіпчук.

Барбара Філіпчук, інструктар музыкі, вядзе заняткі і ў доме культуры — навуку спеву, ігры не кейбардзе і простай флейце, у трох узроставых групах — з малечамі ў садку і ў доме культуры са старэйшымі. Сярод дашкольнікаў мае 12 вучняў. Сёння вучні інструктарак Барбары Філіпчук і Малгажаты Кнот — са „Сказкі” і „Вэны” — былі ядром выступаючых са спевамі і ігрой на хвалу нованароджанага Хрыста, надзейнымі наследнікамі гарадоцкіх сеніёраў сцэны і эстрады, перш за ўсё нястомнага больш за паўстагоддзя „Расспяванага Гарадка”. Пачынаючы ад пастаралкі, прагучалі калядкі і рэлігійныя песні на польскай, беларускай, стараславянскай і рускай мовах, паказаны былі сцэнкі з батлейкі — як вітаюць анёлы і пастушкі нованароджанага Збаўцу. Пасля малечаў і вучняў гарадоцкіх школ выступілі дзіцяча-маладзёжныя „Сказка” і „Вэна”. Потым на сцэну з гвяздамі ўзабраліся „Хутар”, залучанская „Каліна”, „Асенні ліст”, „Расспяваны Гарадок”... Найбольш папулярнай была польская эстрадная песня, з віду тых старэйшых, якіх немудрагелістыя словы ведаюць усе пакаленні „Jest taki dzień” — пра дзень, які лічыцца ад змроку, напоўнены радасцю на небе і зямлі, калі ўсе ўсім перадаюць добрыя пажаданні, напоўнены любоўю, надзеяй і спакоем. Такі настрой панаваў у зале, у якой старыя і малыя ўдзельнікі святочнай сустрэчы стараліся як маглі найпрыгажэй выступіць, паказацца, пазахапляцца, і моцна білі ў ладкі, асабліва на канец, калі выступіла моцная шматпакаленная грамада з калядой. Перад ёю з канцэртам выступіў добравядомы гарадоцкай публіцы Зміцер Вайцюшкевіч з калядным і не толькі такімі песнямі, якому падспеўвала публіка. І бабулькі, і ўнукі ведалі словы яговых песень!

*Засцілайце столы беленькім абрусам, радуйся, ой, радуйся...* — з каляднай песняй падаліся ўсе на калядную вячэру.

Янка Карповіч, шматгадовы дзеяч культуры з Гарадка, прыкмеціў:

— Раней было больш сціпла. Цяпер гэта стала больш папулярным, у школе таксама. Вельмі добрае ўражанне — бацькі з дзецьмі прыходзяць, супольна святкуюць. Адзін перад адным хоча паказацца з лепшага боку.

Чарговая калядная вечарына правадзілася праз дзень у асяродку культуры ў Міхалове, а ў суботу 28 студзеня калядніке наведалі Крынкі.







# „Зоркі” і святло

*Упершыню ў фінале адкрытага чэмпіянату Аўстраліі па тэнісе сустрэліся дзве беларускі: адна з паходжання — Марыя Шарапава, якая выступае за Расію, другая — народжаная ў Мінску Вікторыя Азаранка. Апошняя цалкам апраўдала сваё імя і ўпершыню з беларусаў перамагла ў адзіночным разрадзе турніру такога высокага роўню. У іншай сітуацыі можна было б шчыра пацешыцца з гэтага спартовага факта, але нешта ў сярэдзіне душы не дазваляе. Гэтае „нешта” — асэнсаванае і падсвядомае адчуванне таго, што ў Беларусі няма таго галоўнага, што яднае нацыю, надае ёй гонару і патрыятызму. Той жа спорт, як сацыяльная з’ява, з аднаго боку нібыта кшталтуе беларускі патрыятызм, а з іншага — часцяком выкарыстоўваецца дзяржаўнай прапагандай як сродак доказу „геніяльнага палітычнага курсу кіраўніцтва”. Як прыклад тая сама новаспечаная першая ракетка свету Азаранка — не раз яе імя ўжывалася дзеля сумнеўных мэт, дзякавала яна вярхоўнай уладзе і за сваё „шчаслівае дзяцінства”. Паводзіны славутай тэнісісткі вытлумачыць можна. Магчыма, яна не прачытала ў дзяцінстве тых трохчатырох кніжак, якія пашчасціла прачытаць іншым. Можна дасканала авалодаць „смэшам” ці „форхендам”, але гэта ніяк не ўплывае на фармаванне светапогляду. А магчыма, яна сапраўды не ведае сапраўднага стану рэчаў у сваёй роднай краіне, бо жыве пераважна за мяжой, а ў Беларусі бывае досыць рэдка. Але трэба заўсёды памятаць: каму шмат дадзена — з таго і запытанне па іншым, больш вялікім рахунку. У цяперашнім свеце з „зорак” спорту ці эстрады найперш бярэ прыклад моладзь, мадэлюе іх паводзіны і паставы. Яркі прыклад спартовай высакароднасці для неадэкватных заўзятараў далі на мінулым тыдні гандбалісты зборных Сербіі і Харватыі, якія ў матчы чэмпіянату Еўропы і на пляцоўцы паводзілі сябе як сапраўдныя мужчыны, і пасля сустрэчы прадэманстравалі як можна і трэба годна сябе трымаць.*

*Разумею тых, хто шчыра радуецца поспехам беларускіх спартоўцаў, для многіх, задзяўбаных неўладкаваным бытам ці дурной працай, неадэкватнымі начальнікамі ці звяглівымі жонкамі, — гэта ледзь не адзіная радасць у жыцці. Хоць сучасны спорт інакш як з іроніяй і ўспрымаць нельга. Калі раней на арэнах выступалі бясспраўныя і гаротныя, а на трыбунах цешыліся багацеі, то цяпер свет перакуліўся — ужо мільянеры лупяць нагамі ці ракеткамі па мячыку, а бедныя аддаюць апошнія грошы за запаветны квіток на стадыён.*

*Разумею тых, для каго пакуль у Беларусі ёсць смяротнае пакаранне, няпраўнасць і гвалт улады над іншадумцамі, пануе адвалочная несправядлівасць і цемрашальства, няма забавы і сапраўднай весялосці. Днямі, быў сплачаны вялізны штраф, сабраны і пералічаны, што называецца „ўсім мірам”, накладзены на зняволенага лідара грамадскага праваабарончага руху Беларусі Алеся Бяляцкага нібыта за страты, якія ён прычыніў дзяржаве. Аднак, суд пры разглядзе касацыйнай скаргі ніяк не зрэагаваў на істотную змену сітуацыі. А начальнік беларускай дзяржавы не так даўно публічна дэклараваў, што калі хто сплачвае „ўрон” — адразу выходзіць з турмы. Гэта яшчэ раз пацвярджае тое, што крымінальны працэс над Бяляцкім, як і жорсткія прысуды ўдзельнікам апошніх прэзідэнцкіх выбараў, маюць выключна палітычную афарбоўку — людзей знішчаюць фізічна і псіхалагічна за тое, што яны публічна выяўляюць сваю думку і змагаюцца за справядлівасць.*

*Таму я найперш разумею тых, хто патрабуе пазбавіць Беларусь права праводзіць у Мінску чэмпіянат свету па хакеі і заклікае да байкоту. Гэта іх асэнсаваны, сумленны і справядлівы маральны выбар. Аднак, наўрад ці ўдасца дамагчыся такога. Больш таго, на мінулым тыдні стала вядома, што Рэспубліка Беларусь атрымала яшчэ і права на першынство свету па велатрэку ў 2013 годзе.*

*У беларускую сталіцу могуць прыехаць „зоркі” сусветнага хакея і веласпорту, але святлей ад гэтага ў краіне не стане.*

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Археалогія аднаго знаёмства (3)



*У Беларусі, паводле інфармацыі зачэрпнутай з Вікіпедыі, большасць тых, хто дэкларуе беларускую мову як родную, што дзіўна, у сваіх хатах размаўляе... па-руску. Цікава гэтыя даныя выглядаюць у супастаўленні з польскай меншасцю. Тамашнія палякі ў значнай ступені карыстаюцца ў сваіх хатах не польскай, а... беларускай мовай! Гэта, сапраўды, цікава.*

*Беларуская меншасць у Польшчы, асабліва пражываючая ў вёсцы, карыстаецца ў натуральны спосаб дыялектнымі відамі беларускай мовы. Затое ў гарадах большасць адукаваных беларусаў з незвычайнай свабодай жангліруе — у найлепшым значэнні гэтага слова — але і залежна ад акалічнасцей — так беларускай мовай, літаратурнай і дыялектнай, як і польскай. Прычым рашучая большасць з іх, перш за ўсё беларуская інтэлігенцыя, моцна дэкларуе беларушчыну як дэтэрмінант уласнай тоеснасці. Толькі што не ставіцца ўжо ў контры ў адносінах да польскасці — якая ж ахоплівае шмат аспектаў штодзённай працы і жыцця! Гэта настолькі прымушае да одуму, што яшчэ нядаўна нацыянальная меншасці на польскім грунце па розных прычынах адчувалі сябе як горшасці, што ў выніку прыводзіла да часктовай гетызацыі. Інакш гаворачы, беларусы ў Польшчы пачалі ад „кругласталовага” часу бачыць сябе як нацыянальная адрознасць, а раўнапраўная ў адносінах да польскасці тоесная своеасаблівасць: ані горшая, ані лепшая — раўнапраўная ў адносінах да кожнай іншай нацыянальнасці. І гэта прыгожы факт. Ну, хіба што я памыляюся. Хоць фактам з’яўляецца таксама тое, што не ўсе палякі і беларусы выплюнулі з сябе яд шавінізму і нацыяналізму. На жаль, не кожны факт — прыгожы.*

*Калі польская мова, літаратурная і гутарковая, шторазбольш становяцца падобнымі адна да адна, што спрыяе паглынанню лексічнай чужасці, беларуская літаратурная мова функцыянуе паралельна са сваімі гутарковымі ці дыялектнымі відамі. Я мяркую, што гэта спрыяе захаванню яе крынічнай чысціні. Нават у Польшчы, дзе жыве шмат беларусаў, паддадзеных штодзённаму дыктату паўсюднай пальшчызны, выступае падобная раздзельнасць — беларускія дыялекты сабе, а літаратурная мова — сабе. Іншая гэта справа, што беларус з-пад Саколкі знакаміта дагаворыцца з тым з-пад Гарадка і без ніякіх моўных запінак дагаворыцца з земляком з-пад Мінска. І незалежна ад таго, ці будзе гаварыць на гаворцы, ці на літаратурнай мове. У гэтай тонкай разнастайнасці трымаецца выжывальная жывучасць беларускай мовы, якая быццам незагуслая жывіца надалей утрымлівае і працэс развіцця, і заадно аўтанамічныя рысы. І гэта яе вялікая „бурштынавая” патэнцыя. Хоць, на маю думку, сама мова не з’яўляецца злучальным рэчывам беларушчыны.*

*Тым не менш гэта якраз мова стала ружжом маладой беларускай інтэлігенцыі, якая выступіла ў абарону беларускага духу. Спецыяльна адзначаю гэтую маладосць, паколькі ў амаль кожным стагоддзі ўчынялі на беларускім народзе амаль цалкавітае абезгалоўліванне, знішчаючы яго інтэлігенцкі слой. Аднак на падабенства коркавага дуба, які, хоць абдзіраюць яго да лыка, рэгенеруе страчаную кару, беларусы з незвычайнай для іншых нацый упартасцю адбудоўвалі сваю інтэлігенцкую тканку, адрабляючы рукі па локці ў зямлі і гнаі ды толькі для таго, каб адукаваць чарговае пакаленне інтэлігенцыі. Таму не здзіўляе факт, што недахоп прымірэнчай спеласці, якая бярэцца са шматпакаленневай бесперапыннасці інтэлігенцкага этасу, беларуская інтэлігенцыя наганяе юнацкай імпульсіўнасцю і арбітральнасцю. І можа таму няма другой такой нацыі, якая магла б пахваліцца на прасторы ўсёй сваёй гісторыі лікам асвечаных ведамі, а перш за ўсё апантаных місіяй захавання нацыянальных каштоўнасцей грамадскіх дзеячаў, сейбітаў культуры, творцаў і вучоных, актывізуючых свае веды і ўмелацсі вакол вялікай справы — беларускай справы! Але не было б Скарыны, Купалы, Тарашкевіча ці больш сучасных постацей: Браніслава і Юрыя Туронкаў, Сакрата Яновіча ці Алега Латышонка, калі б не моц беларускай вёскі, з якой выводзіцца, найчасцей у першым пакаленні, беларуская інтэлігенцыя. А тая не адмаўлялася ад сваіх сялянскіх каранёў і, больш таго, заўсёды чэрпала праз іх з прыкрыніц чалавечага гонару і годнасці сваю вялікую мудрасць. І за яе ім усім вельмі дзякую. А ўжо асабліва Янку Туронку, які адкрыў перада мною шмат закрытых аспектаў тоеснасці як такой — неабавязкова беларускай ці польскай. От, беларус ён. І, хіба, трошкі паляк.*

**Міраслаў ГРЫКА**

**Вачыма еўрапейца**

# Спозненая намінацыя



*Вядомы ўжо спісак вядучых аўтараў прызнаванай 21 раз літаратурнай прэміі прэзідэнта горада Беластока імя Веслава Казанэцкага, выдатнага беластоцкага паэта. Капітул вылучыў сёлета ў сціслы авангард пяцёра аўтараў. Не апынуўся сярод іх заяўлены да прэміі Сакрат Яновіч з выдадзенымі ў мінулым годзе „Utworami wybranymi”, значыць творчасцю, якая паказалася на працягу гадоў яго-най творчай дзейнасці. Затое сур’ёзным кандыдатам да прэміі з’яўляецца Міхал Андрасюк, беларускі пісьменнік народжаны ў Гайнаўцы і яго кніга ў перакладзе на польскую мову „Белы конь”. Больш абшырна пісалі мы аб ёй у „Ніве” некалькі тыдняў таму пры нагодзе яе прамоцыі. Прывяду тут толькі за сайтам www.bialorus.pl думку аб кнізе, выдадзенай пяць гадоў таму па-беларуску: „Ёсць кнігі, якія аповед хапаюць вострa і маланкава, як хапаецца за рогі быка. Пісьменніцкая стратэгія Міхала Андрасюка ў „Белым кані” — іншая. Аўтар у першых раздзелах цярпліва ўздымае перфекцыйны фундамент, на якім у далейшай частцы ўстанаўлівае захапляючы сваёй прыгажосцю і багаццем палац сваёй унікальнай уявы”. Неафіцыйна гаворыцца, што „Белы конь” з’яўляецца найбольш сур’ёзным кандыдатам у сёлетнім выпуску прэзідэнцкага літаратурнага вылучэння. Канкурэнцыяй яму з’яўляецца толькі „Książka meldunkowa” Яна Камінскага, пісьменніка і настаўніка з Беластока, сюжэт якой звязаны з ваколіцай Гарадка пяцідзесятых гадоў мінулага стагоддзя.*

*„Белы конь”, хаця гэта знакаміты зборнік апаведанняў — не меў бы шанцаў звярнуць на сябе ўвагу прэзідэнцкага капітула (у яго склад уваходзяць прадстаўнікі беластоцкіх літаратараў, літаратуразнаўцаў, літаратурных крытыкаў і жонка Веслава Казанэцкага), калі б не быў перакладзены на польскую мову, дарэчы, вельмі ўдала, Марцінам Рэмбачам, старшынёй Цэнтра грамадзянскай адукацыі Польшча-Беларусь, які яго выдаў. І гэта для мяне незразумелае. У першым пункце рэгламента прэміі можна прачытаць: „Літаратурная прэмія — за найлепшую кніжку года — прысуджаецца творцам, звязаным з літаратурным асяроддзем Беластока або тут народжаным ці пражываючым, або творчасць якіх паказвае сувязі з горадам і рэгіёнам ды творцам, якіх кніжкі выдадзены ў Беластоку”. Міхал Андрасюк пяць гадоў таму таксама задавальняў патрабаванні: меў ён сувязі з рэгіёнам, а кніжка была выдадзена ў Беластоку. Аднак праблемай для капітула было тое, як мне здаецца, што паказалася яна па-беларуску. У рэгламенце прэміі аднак няма ні слова аб тым, на якой мове павінны быць выдадзены заяўленыя і канчаткова намінаваныя кнігі, ані тым больш, што маюць яны быць выключна па-польску, а толькі адзначана, што „прэмія назначаецца аўтарам найлепшых кніжак з ліку ўсіх літаратурных жанраў”, а з удзелу выключаны анталогіі і апрацоўкі. Здзіўляе мяне, што з беластоцкай літаратурнай прасторы прэзідэнт Беластока і ягоны капітул прэміі імя Веслава Казанэцкага вырэзваюць беларускамоўную літаратуру (і іншую — няпольскамоўную). Я нават калі б не ведаў „Белага каня” па-беларуску, то мог бы хоць меркаваць, што на мове арыгінала ён аднолькава добры як па-польску, калі не лепшы, значыць цікавейшы, напрыклад, у вербальным пласце, можа ў сваіх фрагментах цяжкіх для перакладу. Таму калі нават — галоўным чынам польскафілалагічны, каляўніверсітэцкі капітул палічыў, што „Белы конь” настолькі дасканалы, каб яго намінаваць да літаратурнай прэміі прэзідэнта, то чаму не прыняў яго пад увагу зараз пасля таго, як паказаўся на мясцовым выдавецкім рынку на беларускай мове?*

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**



Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

# У зімовым антуражы

**Найкарацейшая дарога з Беластока ў Бельск праходзіць цераз Войшкі, і яна калісь, здаецца, была галоўнай камунікацыяй паміж гэтымі гарадамі. Цяпер справы выглядаюць інакш і амаль увесь транспарт адбываецца цераз Заблудаў. А дзеецца так таму, што тая найкарацейшая найменш выгадная — яе шафёры называюць „аўтастрадай”, з дзвюх палос: палова дарожнага палатна асфальтавая, палова жвіровая. Пасажырам, у тым ліку і мне таксама не вельмі выгадна тудою ездзіць; таму мне гэты маршрут слаба вядомы. Меў я злезці з аўтобуса насупраць Навасад, але з-за тапаграфічнай несвядомасці паехаў я далей, за дарожны паказальнік. І можа добра, што так здарылася, бо побач тае дарожкі, па якой я цяпер пайшоў у вёску, паказаўся цікавы аб'ект. На ўзгорку, што паввіс над дарогай, высіліся перад вёскай культавыя аб'екты. Асабліва вылучаўся валун з выразанай на ім датай 1862 года. На гэтым валуне замацаваны таксама металічны абразок святога Андрэя Баболі пад датай 1992 года.**

У зімовую марозную пару цяпер на вёсцы пуставата. Мала хто выходзіць навонкі палюбавацца чыстым, белым зімовым краявідам. Асабліва калі сцюжа аж змарожвае вочы. Такія зімы цяпер бываюць рэдка. Незабруджаны гарадскімі нечыстотамі зімовы краявід захапляе манахроміяй, асаблівай графічнасцю. Пажылыя людзі мабыць налюбаваліся ўжо гэтай красатою і грэюцца па хатах, а і моладзь зімовыя канікулы мабыць больш ахвотна каратае ў віртуальнай прасторы. Таму вуліца ў такое надвор'е пуставатая.



Агромністы балван, вышынёю за тры метры

На адным з навасадскіх панадворкаў высіўся агромністы балван, вышынёю за тры метры, завершаны берэтам з аўтамабільнай шыны. Усё ж такі ў зімовы час на, здавалася б, апусцелай вёсцы знаходзяцца людзі з лішкам жыццёвай энергіі і творчым падыходам да яе выкарыстання. Калісь валачылі лёгкія драўляныя прадметы на саламяныя стрэхі, цяпер тэхніка замяніла даўнія сельскія прылады з ручным прыводам іншымі, больш цяжкімі прыборамі. Ды і колішніх стрэх цяпер няма. Але балвана можна ўкачаць. Цікавіла мяне, як яго творцы ўзвалілі так высока цяжкія снегавыя бабіны, аднак не выпадала ў такую сцюжу дурыць гаспадарам галавы такімі справамі. Можа ўзвальвалі тыя снегавыя цюкі „цыклопам”?.. А можа нейкім іншым спосабам, як эскімосы будуюць свае іглу, ці старажытныя егіпцяне будавалі піраміды...

Навасады, нягледзячы на тое, што яны толькі ў пятнаццаці кіламетрах ад Беластока, захавалі свой вясковы характар; амаль няма там вялікіх мураванак. У вёсцы невялікая каталіцкая капліца, а за вёскай шмат маладога лесу — гэта ўказка, што тамашнія вяскоўцы пакінулі гаспадаранне і падаліся ў горад.

Ад Навасад падаўся я ў бок Жукоў. Перад вёскай паказалася драўляная паветка аўтобуснага прыпынку, шчыльна аддзеленая ад шашы прыдарожнымі кустамі. Магчыма, што калісь побач Жукоў ездзілі пасажырскія аўтобусы, а цяпер перасталі. У пачатку вёскі паказаўся мне будынак самотнага выгляду. Спытаў я праходзячага мужчыну, ці гэта пажарнае дэпо; ён пацвердзіў. Але калі я далей хацеў даведацца, што ў ім бывае, ён адказаў мне што там ёсць усё што трэба...

У савецкі перыяд каля Жукоў быў разгорнуты палявы аэрадром, дзе размясціўся полк знішчальнай авіяцыі. Камандаванне было закватаравана ў Заблудаве і навакольных вёсках, а асноўны персанал у палатках і зямлянках. Вясной 1941 года частка палка перабазіравалася на запасны аэрадром пад Ломжай, а тут мела пачацца будова цвёрдых узлётна-пасадачных дарожак; полк меў таксама атрымаць новыя машыны. Мела быць каля 120 знішчальных самалётаў, частка з іх была адно на паперы, наяўныя машыны не былі ў баявой гатоўнасці, не хапала таксама абучанага персаналу. Неўзабаве ўспыхнула вайна і палкавыя — так старыя, як і новыя — самалёты былі знішчаны нямецкай авіяцыяй. Справа аэрадрома каля Жукоў, як лётнішча для Беластока, была ўзнята некалькі гадоў таму, але і гэтым разам ніякая авіяцыя тут не атрымалася.



На ўзгорку перад Навасадамі

Жукі, падобна як і Навасады, захавалі вясковы характар, да таго ж вуліца ў Жуках даволі вузкая. І ў пачатку апошняй вёскі стаяць два праваслаўныя крыжы; маркотны каталіцкі крыж стаіць у другім канцы Жукоў — з боку Пасынак. Абедзвюм гэтым вёскам ужо за паўтысячы гадоў; згадваюцца яны ў дакументах ад 1525 года, гэтак жа як і Казлікі. Навасады, як сама назва вёскі падказвае, малодшыя.

І ў пачатку Пасынак два мураваныя крыжы: праваслаўны і каталіцкі. А за вёскай стаіць бяскрылы драўляны вятрак. У Пасынках вуліца таксама вузкая, да таго ж абледзянелая. І крыху апусцелых хат, так як і ў Жуках...

На гэтай абледзянелай вуліцы пабачыў я маладога чалавека, на выгляд гімназіста, які прабаваў катацца на веласіпедзе. Магчыма, што такія спробы ўтрымацца на роварах на коўзкім ільдзе трэба разглядаць як своеасаблівае спаборніцтва, спорт, змаганне са зменлівасцямі лёсу, з капрызамі прыроды, выпрабаванне свайго спрыту. А можа такая прывязанасць да веласіпеда з'яўляецца вынікам веласіпеднага менавіта ажыятажу, тых усіх лекарскіх рэкамендацый, тых абавязковых у сучасным дарожным будаўніцтве веласіпедных дарожак. Калі б такая публічная ўвага адводзілася, напрыклад, канькам, дык магчыма, што той малады спорт быў бы больш дапасаваны да прыродных варункаў. Уяўляю сабе, што калісь, калі былі больш лютыя чым цяпер маразы, па вуліцах нашых вёсак і на вонкавых ахапках ільду каталіся маладыя людзі на самаробных „каньках” з палена і дроту. Хто цяпер пра такое падумае?..

Ды, больш шырока разважаючы, адкуль узяць дрот, калі пазводзіліся „жалезныя” крамы?.. Цяпер мус адно гатовыя вырабы купляць. Такі настаў час, паўфабрыкатаў амаль няма ў продажы. У Загрушанах на краме шыльда EUROSAM; не заглядаў я туды, але мяркую, за назвай, што там таксама ўсё гатовенькае, адно плаці грошы і нясі ў рот... Ды і тое гатовае найчасцей прывозяць пад вясковыя хаты аўтакрамы.



Вятрак за Пасынкамі




## Беларускія Віскулі — нараджэнне новага свету

Прафесар Галіна Твarановіч прывезла з Беларусі некалькі беларускамоўных газет. Цікавыя. А цяпер як жа цяжка здабыць беларускую ці рускую прэсу, найперш таму, што страшна дорага.

Адна з падараваных Георгію Валкавыцкаму газет называецца „Тут і цяпер", гэта дадатак да „Беларускай газеты" ад 15-21.12.2011 г. На апошняй — 8-ай старонцы Павел Севярынец апублікаваў фельетон аб Віскулях — вёсцы ў Белавежскай пушчы, у Пружанскім раёне (непадалёк знаходзіцца месца майго нараджэння і кароткага дзяцінства Дзедаўка, Сакольнік). Віскулі? Ведаеце! Пра гэтую вёску ведае ўвесь свет. Але няхай гаворыць аўтар з „Тут і цяпер".

„Савецкі Саюз знік роўна 20 гадоў таму. Тады назва маленькай вёсачкі Віскулі ў Пружанскім раёне, у глыбіні Белавежскай пушчы... успарола ўвесь свет. Тое, што не ўдалося ніводнаму магутнаму ворагу, раптам адбылося ў Беларусі...

Днямі праз Пушчу пусцілі новую дарогу Брэст — Гродна. Прыгажосць! Краявіды! Падземныя пераходы ў месцах міграцыі жывёл. Турыстычныя знакі. Ціха, урачыста...

Пушча — заўсёднае, з часоў Вітаўта, логвішча загнаных беларусаўзмоўшчыкаў, канфедэратаў, паўстанцаў, партызанаў. Месца грандыёзнага забою зуброў і ласёў... паляўнічы рай Жыгімонта Аўгуста, Мікіты Хрушчова, Леаніда Брэжнева. Зямля, зрытая на невымерную глыбіню сакрэтнымі бункерамі і ракетнымі шахтамі.

Памятаю: мне чатырнаццаць. За акном бела-бела, светла-светла ад снегу. І навіна: СССР больш няма. Беларусь".

А цяпер Віскулі? Піша аўтар:

„Маленькі, утульненькі паляўнічы домік. Крыштальныя кілішкі. Светлы бел-чырвона-белы сцяжок.

Белавежская пушча!"

Газета падае інфармацыю. Першая: падпіска на газету „Тут і цяпер" бясплатная. Другая: каб аформіць падпіску, трэба адправіць смс са сваім адрасам на нумар 8 10 370 679 294 59. Адрас рэдакцыі „Тут і цяпер": Мінск, вул. Касцюшкі, 8.

**(вв)**

## Удакладненне

У артыкуле Уладзіміра Сідарука „У Палічнай калядавалі" („Ніва" № 5) з'явілася адна памылка. З выказвання Дарафея Фіёніка вынікае, што быццам бы калектыў „Жэўжыкі" дзейнічае пры бельскім белліцэі. У сапраўднасці працуе ён пры бельскай „тройцы". За зробленую супрацоўнікам тыднёвіка недакладнасць просім выбачэння ў зацікаўленых бакоў.

**Рэдакцыя**




# Праўда аб рыбаловах

***Размова з 66-гадовым пенсіянерам Міхалам ТХАРЭЎСКІМ, былым муляром-тынкоўшчыкам з Орлі, які больш паўстагоддзя займаецца лоўляй рыбы. Ён не толькі рыбалоў, але і дасканалы назіральнік за прыродай ды чалавечымі паводзінамі.***



***— Ці зіма з'яўляецца для вудзільшчыка часам адпачынку, ці наадварот — часам нервовага чакання? Чым наогул з'яўляецца рыбалка для Вас?***

— Нервовай разгрузкай, успакаеннем ад штодзённых спраў, ад сямейных клопатаў. Я, калі ў пазазімовы час паеду раз у тыдзень, то ўспакойваюся на два тыдні. А калі паеду і не злаўлю, тады таксама не трачу. Найгорш, калі тыдзень не еду, тады нервуюся. Жонка прывыкла да гэтых маіх частых выездаў і ведае, што мяне ад іх не адзвычаіць.

Зімою таксама можна лавіць рыбу, пад лёдам, але толькі карася і карпа, які лічыцца чужой рыбай. Кожная рыба мае свой ахоўны перыяд. Каб бяспечна лавіць, лёд павінен мець таўшчыню парадку трыццаці сантыметраў, але некаторыя рыбаловы выходзяць і на дзесяць. У нашым арлянскім гуртку маем два свердзелы для лёду і некаторыя хлопцы выязджаюць калі трымае мароз. Маюць прыборы, якія рыбаловам прапануюць рознічныя і оптавыя магазіны — гэта бізнес.

У мінулым бывалі такія зімы, што лёд намярзаў да метровай таўшчыні. Калі ў вадаёме мала вады, тады рыба душыцца, апрача ліня і карася, якія хаваюцца на дне ў мул. Тады трэба падаваць пад лёд паветра, класці з берагу фашыну, чарот.

***— Вудзільныя прылады напэўна дарагія. З чаго калісь, калі Вы пачыналі вудзіць, рабілі вуды?***

— Калісь найчасцей з арэшыны. Вядома, калаўроткаў калісь ніхто не меў. Хто быў кемлівейшы, той рабіў сабе больш складаную вуду, з трубак, а вяршок, напрыклад, з ядлоўцу. Арэшыну бралі з рудутаўскага лесу Жаркі. Там было яе ўдоваль, а пры нагодзе можна было нарваць арэхаў.

Зараз ёсць вуды па пяць ці па дзесяць тысяч злотаў. Я лаўлю без тых электронных навінак. Вельмі доўга у мяне былі бамбукавыя прылады, але станавілася сорамна з імі паказвацца. Аднак цікавае тое, што я тымі бамбукавымі вудамі злавіў найбольш. А мо калісь было больш рыбы?

***— А якой была Арлянка даўней?***

— Была шырэйшай, плыла старым рэчышчам (пазней рэчку ў многіх месцах выпрасталі, ліквідуючы неацэнныя лукі — М. М.), не было запруд. У 1950-1960-х была якая хочаш рыба. Бо калісь не рассявалі штучных фертылізатараў, не было таксама меліярацыйных равоў на палях і сяляне доўгі час не выходзілі ў поле з-за макраты. А зараз, калі ў равах збіраецца вада, то праз тыя равы рака замуляецца балотам з палёў. І становіцца штораз больш мелкай і вузкай. Ну і калісь не было столькіх вудзільшчыкаў, як цяпер. Да гэтага вадаём у Дубічах прычыніўся да спаду ўзроўню вады ў Арлянцы; гэта непрадуманае гаспадаранне.

***— А якой стала Арлянка сёння? Вядома, што рэчка, ад ачышчальні сцёкаў у Орлі, не задавальняе нормаў для бытавання рыбы, на берагах не растуць ужо дрэвы з-за гаспадарання баброў.***

— Вялікай рыбы няма ў ёй зусім. Ёсць пячкуры (kiełb), корушкі (stynka), гальцы (śliz), верхаводкі (ukleja), але знікае плотка; трымаюцца яны яшчэ недзе па ямках і каля запруд, дзе больш кіслароду. А шчупакі знікаюць, бо размножыліся тхары (фрэткі) і выдры. Ніхто іх не знішчае дык яны нішчаць рыбу. Няма таксама андатры, вынішчанай тхарамі. Мяняецца, горшае асяроддзе. Некаторыя гаспадары адводзяць у рэчку змесціва септыкаў (szambo) — непасрэдна, альбо ўпускаючы ў дажджавую каналізацыю, якая выходзіць у рэчку. Ёсць і такія, што мыюць самаходы над рэчкай каля моста. Жыццё ў рэчцы занікае, а паяўляюцца зялёныя водарасці падобныя на мокрую вату. Арлянка з боку Рудутаў моцна зарасла зеллем і нагадвае роў. І хаця рэчку калісь там выпростоўвалі і ачышчалі, аднак вынік атрымаўся адваротны — яна зарасла яшчэ больш. Поўна там затое баброў, якія пераходзяць шашу і пераадольваюць паўтара кіламетра полем аж да Крывятыцкага лесу. Там, у лесе, яны вынюхалі тушыльныя вадаёмы і загарадзілі ваду, як у возеры.

***— Ці даўней, калі ў Арлянцы было многа рыбы, вудзільшчыкі ездзілі вудзіць у іншыя месцы?***

— Здаралася, што часам ехалі роварамі на Ляшчыны, пад Кожына. Я, будучы яшчэ падлеткам, ездзіў туды са старэйшымі: Сцяпанам Рыбаком, Янам Стэпанюком, Лявонам Кубаеўскім, Міхалам Стэльмашуком. Тады ў Орлі было бадай траіх маладых вудзільшчыкаў 1944 года нараджэння: Чэсек Стулігрош, Алёша Нестаровіч і я. Цяпер у Орлі больш за сотню вудзільшчыкаў. Ловяць на Антанове ў кар'еры на былой цагельні (глыбокім да дваццаці метраў і запоўненым вадою) і на Арлянцы. Хто мае самаход, той едзе далей, нават на Бобру. Зараз сярод вудзільшчыкаў ёсць шмат моладзі, старэйшыя адыходзяць. Штогод ладзяцца спаборніцтвы, але толькі для маладых. Разводзяцца маляўкі карпа, карася, плоткі. Але калі не будзе спынена забруджванне рэчкі, дык рыб зусім не будзе. Вудзільны абанемент каштуе каля ста сямідзесяці злотаў, але на Семяноўскі вадаём трэба дадаткова даплаціць яшчэ пяцьдзесят злотаў.

***— Калі Вы ўпершыню паехалі на Семяноўку?***

— З'ездзіў я з Міхалам Стэльмашуком, калі вадаём яшчэ будаваўся. Працавалі там хлопцы з Орлі, у іх ліку Федзя Баравік. Тады там быў толькі кар'ер і пакладзены пліты. Да гэтай пары я ўжо цэлы вадаём аб'ездзіў, аднак найбольш люблю месца на малым заліве, бо там выступае буйнейшая рыба; ёсць там таксама гадавальнік. Калі загарадзілі некалькі кіламетраў Нарвы, то там асталіся м.інш. сомы, якіх вага даходзіць нават да ста кілаграмаў.

***— Каля дзесяці гадоў таму можна было пачуць шмат дрэннага пра ваду ў Семяноўскім вадаёме...***

— Бо спусцілі ваду, а мелкаводдзе прывяло да зацвіту вады, паявіліся сіне-зялёныя водарасці. Рыба душылася. Было гэта непрадуманае дзеянне.

***— Гаварылася таксама пра дрэнны ўплыў Семяноўскага вадаёма на ваду і рыбу ў Нарве.***

— Гэта няпраўда. Цячэ ўжо добрая вада і рыба завялася. Бо рыбацкія гурткі разводзяць малькоў. Важнае яшчэ і тое, што браканьеры перасталі глушыць рыбу толам. Бо калі працавалі пры пабудове вадаёма, дык тады многія запасаліся зарадамі і браканьернічалі так, што на працягу сямі гадоў рыбы амаль зусім не было.

***— А рыбная ахова?***

— Прыязджае з Беластока, і з вудзільнага гуртка. Але кожнага не правяраюць — столькі цяпер вудзільшчыкаў: з паўтысячы як глянуць. Калісь было некалькі лодак, а цяпер тэхніка рванула ўперад, дык ёсць усё, нават яхты. Некаторыя лётаюць на дэльталётах. Людзі едуць туды адпачываць, некаторыя нават на месяц.

***— Ці гэта праўда, што вугры з'ядаюць тапельцаў?***

— Гэта лухта. Ловяць яго на паджараную жабу, чарвякі. Тапелец пухне і развальваецца. Гэта так, быццам нехта здохлае парася выкіне, як нядаўна ў Арлянку за млыном; замест закапаць вываліў у рэчку. Але ж гэта подласць, такія ў нас адсталыя людзі! Ёсць многа хамства і сярод рыбаловаў, напрыклад, некаторыя курцы выкідаюць недакуркі ў рэчку, бо тады „псыкне". Смецяць. Некаторыя прыносяць з сабою розныя рэчы і пакідаюць. Ёсць і такія, якія пад'язджаюць самаходам над самую ваду, адкрываюць дзверы, уключаюць гучную музыку, хаця такі ўезд забаронены. А паспрабуй такому звярнуць увагу! Пераважна так паводзяць сябе нашы вясковыя таўкачы, бо гайнавяне, як я заўважыў, вядуць сябе вельмі культурна. Забіраюць за сабою ўсё, смецця не пакідаюць.

***— Ці гэта праўда, што рыбаловы любяць выхваляцца, выдумваць?***

— Некаторыя так. Расказваюць што недзе злавілі, а калі заедзеш у тое месца, то аказваецца, што ніякая рыба там не клюе. Я, дарэчы, не слухаю сяброў, асабліва блізкіх. Бо калі зайду да каторага дадому і прашу гаспадыню каб паказала, што муж злавіў і бачу тую рыбу на талерцы; а той расказваў, што рыба велізарная. А часам так падахвоцяць, што спакусішся паехаць. Я не падахвочваю, ведаю, што магу злавіць.

***— А найбольшыя Вашы трафеі?***

— Лавіў я дзевяці-, а нават дванаццацікілаграмовых шчупакоў, сямікілаграмовых карпаў, трыкілаграмовых лінёў. Шчупак, злоўлены мною ў 2000 годзе на цагельні каля Орлі, важыў 10,2 кілаграма, меў 110 сантыметраў даўжыні і быў рэкордным у аб'яўленым ломжынскімі „Кантактамі" гадавым конкурсе; атрымаў я за гэта дыплом і дарагі калаўрот. Дома трымаю трафеі — засушаныя іх галовы. Аднак носа не задзіраю.

***— Дзякую за размову.***

**Гутарыў Міхал МІНЦЭВІЧ**

# Чараўнік роднага слова

Іван СУХОЦКІ

**Аднойчы, праглядаючы ў гарадской краме навінкі літаратуры, на рукі мне папала цікавая кніжка „Скарбы народнай мовы” Апанаса Цыхуна. Гэтай знаходкай я папоўніў сваю дамашнюю бібліятэку і, на шчасце, не памыліўся. Кожны вечар яе ўважліва прачытваў і знаходзіў шмат тых слоў, якія чуў на роднай Свіслаччыне ад сваіх бацькоў, школьных настаўнікаў і вяскоўцаў. Забытыя, але ж сакавітыя словы пачаў выпісваць, паўтараць, запамінаць і ўяўляць, быццам я сустракаюся з тымі людзьмі, з якімі мне лёс наканаваў разам хадзіць на сенакос, пасвіць жывёліну, збіраць ягады і грыбы ў Белавежскай пушчы. Мне пасля знаёмства з гэтай кнігай вельмі захацелася бліжэй пазнаёміцца з яе аўтарам. Аб гэтым я расказаў свайму сябру Івану Будніку, з якім мы вучыліся ў Гродзенскім педінстытуце імя Янкі Купалы. Іван Фёдаравіч ахвотна адгукнуўся на маю просьбу, бо ён добра ведаў краязнаўца і паэта Апанаса Цыхуна. І мы ў канцы траўня 2003 года вырашылі наведаць выдатнага чараўніка роднага слова. Без цяжкасцей на вуліцы Берталя, пад нумарам 41 знайшлі драўляны домік, пафарбаваны ў блакітны колер. І былі радасна здзіўлены, што нас каля веснічак сустракаў невысокага росту, каржакаваты, у саламяным капелюшы, з усмешкай на твары гаспадар гэтага дома.**

„Праходзьце, праходзьце, шаноўныя госці” — самавіта, па-сялянску загаварыў Апанас Пятровіч, прапускаючы нас наперад, па вытаптанай частымі наведвальнікамі сцяжынцы. Адразу павёў нас у сад, каб мы падыхалі свежым паветрам і палюбаваліся пышнай квеценню яблынь і груш.

Пасля кароткага знаёмства дбайны гаспадар запрасіў нас зайсці ў звычайную сялянскую хату. Дома Апанас Пятровіч неяк паспешна замітусіўся, дастаў з куфэрка квяцістую настольніцу, заслаў стол, каб пачаставаць гасцей. Буднік падключыўся да падрыхтоўкі стала і адразу спытаў у гаспадара дома: „Дзе стаяць талеркі?”. Той з гумарам, насмешліва адказаў: „Шаноўныя хлопчыкі! Чаго-чаго, а посуду ў мяне хапае”. Хутка ўсе прыселі за стол. Мы прыйшлі не з пустымі рукамі. Я толькі на днях вярнуўся са сваёй вёскі Грынкі, прывёз бутэльку пушчанскай самагонкі, запраўленай пахучай зуброўкай, Іван паклапаціўся аб закусцы. Адразу чокнуліся, выпілі па чарцы, пажадалі выдатнаму краязнаўцу моцнага здароўя і творчых пошукаў у працы.

Пасля нашых цёплых слоў у руплівага гаспадара пасвятлеў твар, шырока раскрыліся блакітныя вочы, ён неяк лёгка адкашляўся, моцна ўздыхнуў і пачаў расказваць пра сваё мінулае жыццё-быццё.

Спачатку Апанас Пятровіч расказваў пра вёску Кунцаўшчыну, дзе нарадзіўся і правёў свае дзіцячыя і юнацкія гады. Да вайны служыў у польскім войску і на сваіх плячах вынес пачатак вайны. Два разы быў паранены, папаў у нямецкі палон, перажыў жахі фашысцкага канцлагера. Але ж нейкая Божая сіла выратавала яго ад смерці. Пры перавозцы палонных у Катынь, ён у Гродне ноччу выскачыў з цягніка і застаўся жыць, працаваць на сельскай гаспадарцы. У пасляваенны час Апанас Пятровіч усё сваё жыццё прысвяціў школьніцтву. Працуючы выкладчыкам у розных школах Гродзенскага раёна, а затым інспектарам раённага аддзела народнай адукацыі, ён цалкам сябе аддаў таму, каб дзеці шанавалі і ведалі родную мову і любілі родны край.

У гэты час малады настаўнік пачынае займацца творчай дзейнасцю. Ён наладжвае цесную сувязь з пісьменнікамі: Міхасём Васільком, Васілём Быкавым, Аляксеем Карпюком, Данутай Бічэль-Загнетавай, Юркам Голубам, кампазітарам Аляксандрам Шыдлоўскім.

Яго вершы, апавяданні пачалі друкавацца ў мясцовых і рэспубліканскіх газетах, шмат увагі ўдзяляе краязнаўству. Па яго ініцыятыве быў створаны першы ў Беларусі музей Яўфіма Карскага ў вёсцы Лаша і напісаны краязнаўча-біяграфічны нарыс „Акадэмік з вёскі Лаша”. Але ж сэнсам яго жыцця стаў збор народных прымавак, прыслоўяў, забытых слоў. Яго, як краязнаўца, можна параўнаць з Язэпам Драздовічам, які ў даваенны час калясіў па заходняй частцы Беларусі, збіраў народныя скарбы: дываны, посцілкі, ручнікі, замалёўваў старыя замкі. Апанас Пятровіч узяў меншы абсяг сваіх пошукаў — Гродзенскі раён, але затое абышоў не адзін раз усе вёскі, хутары, вёў гутарку з тысячамі насельнікаў, каб запісаць прыказку, прымаўку ці знайсці залацінку — забытае слова і аставіць яго для нашчадкаў.



Апанас Цыхун (справа) з кампазітарам Аляксандрам Шыдлоўскім

У 1993 годзе выйшла з друку кніга Апанаса Цыхуна „Скарбы народнай мовы”. Змест кнігі складаюць рэгіянальная лексіка да 10 тысяч слоў і каля адной тысячы ўстойлівых выслоўяў, а таксама назвы населеных пунктаў Гродзенскага раёна. Высока была ацэнена кніга нашымі славутымі пісьменнікамі Янкам Брылём і Нілам Гілевічам, якія прыслалі збіральніку свае пісьмы са шчырай падзякай за зробленую работу.

Памёр Апанас Пятровіч 5 сакавіка 2005 года, не дажыў да стагадовага юбілею пяць гадоў. Але ж прыхільнікі яго таленту правялі вялікую работу, каб увекавечыць яго памяць.

Хочацца адзначыць, што шмат часу, намаганняў прыклаў Іван Фёдаравіч Буднік, які доўгія гады сябраваў з Цыхуном. Яму ўдалося сабраць раскіданыя матэрыялы на старонках розных выданняў, звязаць з тымі людзьмі, якія добра ведалі Апанаса Пятровіча і напісалі свае ўспаміны аб ім. Калі ўсё было сабрана, паўстала пытанне: як выпусціць кнігу? Неўзабаве працягнуў руку дапамогі шчыры аматар беларушчыны, каардынатар серыі „Гродзенская бібліятэка” Павел Мажэйка і кніга ў мінулым годзе пад назвай „Улюблёны я ў сваю зямлю” пабачыла свет у Беластоку. Іван Буднік наладзіў абмеркаванне кнігі ў сценах Гродзенскага ўніверсітэта імя Янкі Купалы. У зале сабралася шмат студэнтаў, філолагаў, гісторыкаў, усіх тых, хто любіць Бацькаўшчыну. Сваімі думкамі аб сустрэчах з Цыхуном падзяліліся выкладчыкі ўніверсітэта Аляксей Пяткевіч і Мікола Даніловіч. Кампазітар Яўген Петрашкевіч выканаў уласную песню на словы Цыхуна „Восем сыноў-арлянят”, а спявак Анатоль Куніцкі ўсхвалявана выканаў перад прысутнымі песню Івана Адамовіча на словы Цыхуна „Зорка нязгасная”.

Сёння, калі Апанас Пятровіч адышоў у іншы свет, мне падумалася: хто ж усё-такі заклаў у яго свядомасць такую любоў да роднай спадчыны. І, чытаючы аўтабіяграфічны нарыс „Пройдзеныя шляхі-пуцявіны”, я знайшоў адказ на гэтае пытанне. Безумоўна, гэта сваячніца роду Цыхуноў — бабуля Явуся, казачніца, якая распавядала пра вадзянікоў, ведзьмароў, пра залатых русалак, птушак і пра Русавага дзеда, які ахоўваў нашу жытнёвую ніву. Магчыма, прыйдзе час, калі ў тым доміку, на ціхай гродзенскай вуліцы, дзе жыў і працаваў Апанас Пятровіч, адкрыецца музей. У прыгожым садку мясцовыя скульптары паставяць фігуру Русавага дзеда, а вакол яго будуць расстаўлены фігуркі перапёлачак, курапатачак, жаўручкоў, кнігавак, дзяркачыкаў. А настаўнікі школ і выхавацельніцы дзіцячых садкоў будуць прыводзіць сюды школьнікаў і малых дзетак, каб вучыць іх так любіць сваю Бацькаўшчыну, прыроду і родную мову, як яе любіў чараўнік роднага слова.

## Дзе чырвоныя скрынкі?

У Нараўчанскай гміне адна пошта. Яна ў Нараўцы. Па вёсках былі паштовыя скрынкі для адпраўкі пісем, ды іх забралі. На маё пытанне, чаму няма паштовай скрынкі ў Новым Ляўкове, у студзені 2012 года адказаў намеснік дырэктара Рэгіянальнай сеткі Польскай пошты Францішак Геруд: *Rejon Sieci (…) informuje, iż powyższe zmiany dokonane były m.in. w oparciu o Zarządzenie Nr 105/2010 Prezesa Zarządu Poczty Polskiej S.A. z dnia 12 października 2010 r. w sprawie „Instrukcji o nadawczych skrzynkach pocztowych w zakresie ich rozmieszczania, ewidencji, opróżniania i kontroli.* У пісьме тлумачыцца, што ў мясцовасці Новае Ляўкова пражывае каля 250 жыхароў. Згодна з запісамі тае інструкцыі, на вясковай тэрыторыі ў кожнай вясковай мясцовасці (напр., вёсцы, пасёлку, калёніі), налічваючай больш за 300 жыхароў, павінна быць змешчана прынамсі адна паштовая скрынка. Устаноўка дадатковых скрынак павінна быць абгрунтавана досведамі. На пачатку 2010 года адбылася праверка месцаў размяшчэння выхадных скрынак, беручы пад увагу запатрабаванне на паслугу (лік *dokonywanych wrzutów* у скрынкі) ды бачнасць і зручнасць для кліентаў Польскай пошты. Праведзеныя даследаванні паказалі, што запатрабаванне на паслугу ў мясцовасці Новае Ляўкова мізэрнае, апрача таго ў адлегласці каля 800 метраў ад гэтай мясцовасці ў Старым Ляўкове пры Паштовым агенцтве ёсць выхадная скрынка. Пасылку можа таксама штодзень адправіць у лістаношы, які абслугоўвае жыхароў мясцовасці Новае Ляўкова ў рамках абслугі раёна дастаўкі лістоў. Падагульваючы — цяперашняя колькасць і размяшчэнне скрынак — паводле Польскай пошты — дастасаванае да патрэб мясцовай грамады і поўнасцю пакрывае попыт у гэтай галіне, і таму ўстаноўка скрынкі ў Новым Ляўкове не прадбачаецца. Рашэнне аб устанаўленні скрынкі нанова будзе абмяркоўвацца ў выпадку павялічанага попыту на адпраўленне звычайных паштовых пасылак.

Прачытаў я гэты адказ і не магу пагадзіцца з тым, што наваляўкоўцам блізка да Паштовага агенцтва ў Старым Ляўкове, або што лёгка сустрэць пісьманосца, калі хочаш адправіць пісьмо або іншую пасылку. Паштовае агенцтва — у другім канцы Старога Ляўкова і ад цэнтра Новага Ляўкова будзе туды 2,5 км (з прысёлка Лазовага будзе туды 4 км) ды на пошту ў Нараўцы — 6 кіламетраў. Пісьманосец ездзіць на машыне. Калі мае для каго пісьмо або газету, да таго зойдзе, а ўсіх іншых абмінае. Дзе ж будзеш ганяцца са сваім пісьмом за лістаношай!

Кіраўнікі Польскай пошты хіба не ведаюць, хто зараз пражывае ў вёсцы. Гэта перш за ўсё пенсіянеры ды інваліды. Чаму няма для іх ніякай пашаны, ніякай спагады, зразумення? Ім усё ж нейк трэба жыць і дажываць у вёсцы. Нікуды не дзенешся. Жывым у зямлю не пойдзеш. Тут сяляне займаліся земляробствам, плацілі падаткі ды і цяпер іх плацяць. А што маюць узамен? КРУСаўскія пенсіі вядома якія. А ўсё ж трэба купіць: прадукты, тавары, дровы. Ім рэгулярна высылаюць рахункі-вылічэнні за электраэнергію, за ваду, за сцёкі, за страхоўку будынкаў або „PZU Życie” і г.д. Хто ў Новым Ляўкове пастаянна чытае газеты? Усяго чатыры асобы: дзве штодзённыя і дзве наш беларускі тыднёвік „Ніву”.

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.iig.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# Вершы Віктара Шведа

## Штучныя зубы

Вытрас гэтае аднекуль
І вучняў пытаецца:
— Якія зубы чалавеку
Апошнімі паяўляюцца?

— Штучныя
— прыводзіць Куба
Словы іранічныя.
Выццам цуда, глянуць люба
На зубы сінтэтычныя!

## Дыміцца ў нас электрычны прас

Матуля вучыць заўсёды:
— Не гавары падчас яды.
Калі, сынок, ужо з'ясі,
Тады ўзяць слова папрасі.

Паабедаўшы сынок
Свой уключае галасок:
— На бацькавай кашулі ў нас
Дыміцца электрычны прас.

# Зорка яднае пакаленні



Часта, у час школьных сустрэч, вучні кажуць: завязу „Зорку” бабулі і дзеду ў вёску, бо яны ганарацца, што я вывучаю беларускую мову...

Сапраўды, для многіх бабуль і дзядуляў шчасце, калі іх гарадскія ўнукі цікавяцца мовай і традыцыямі. Разам сядаюць рашаць крыжаванкі, чытаюць пра класных сяброў і настаўнікаў. Часам апавядаюць унукам казкі або гісторыі са свайго жыцця.

Дзядулі і бабулі таксама пішуць у „Зорку”, каб расказаць пра сваіх любімцаў. Вось у святочны перыяд нас павіншавалі спадар Уладзімір з Саколкі са сваім беластоцкім унукам. Ён напісаў:

*Дарагая Зорка! Быў у нас унучак Мацек Цілюлька. Прывезлі яны з бацькам 2 нумары „Нівы”. Пачыталі мы ўдвух, папрацавалі, выпаўнілі крыжаванкі ды высылаем. Унучак вучыцца у ПШ № 4 у Беластоку. Спяваць яго вучыць Анна Бабік. Беларускую мову таксама вывучае. Зорка цікавая.*

Таксама Рыгор Баена з Машчоны-Панскай (дзедка сённяшняга героя Галерэі „Зоркі”) спадзяецца, што разам з прыездам унука ў іх дом завітае „Ніва”. Аказваецца, у некаторых вёсках вельмі складана дастаць нашу газету. Людзі званяць сваім гарадскім сваякам і просяць прывезці ім „Ніву”. Пра тое што дзядулі і ўнукі любяць разам рашаць крыжаванкі, сведчыць таксама статыстыка. Цягам пасляcвяточных тыдняў мы атрымліваем найбольш лістоў з рашэннем крыжаванак і конкурсаў. Нядаўна, толькі цягам аднаго тыдня, мы атрымалі аж 283 адказы на нашы конкурсы. Актыўнасць дзяцей належным чынам ацэньваюць старэйшыя чытачы. Яны нашы спонсары. Дзякуючы аб'яднанню АБ-БА, Радыё Рацыя, бацькам і сябрам маладых чытачоў, мы можам падарыць вам цудоўныя ўзнагароды: альбомныя кніжкі з падляшскімі гісторыямі „Ой даўно, даўно”, дыдактычныя гульні, кампакт-дыскі, фотаальбомы з прыродай і помнікамі архітэктуры, кашулькі і рэквізіты з беларускімі лагатыпамі. Такія ўзнагароды адзіныя ў сваім родзе, бо іх нельга купіць у магазінах ці заказаць па інтэрнэтнай пошце.

ЗОРКА

# Конкурс пра зіму (6)

**Прывітанне, сябры! У нас працяг тэматычнага конкурсу звязанага з перыядам зімы. Разам з адказамі, калі ласка, пазначце нумар конкурсу:**

**1. Якое „школьнае” свята адзначаем у месяцы лютым?**
*а) Дзень зубрылы,*
*б) Дзень прагулу,*
*в) Валянцінкі.*

**2. Як у славян называўся дахрысціянскі бог зімы?**
*а) Балван,*
*б) Зюзя,*
*в) Багач.*

**3. Які раслінны матыў найчасцей сустракаем на вокнах „намаляваных” марозам?**
*а) папараць,*
*б) сланечнік,*
*в) жытка.*

**4. Хто з'яўляецца аўтарам рэлігійнага гімна „Магутны Божа”?**
*а) Максім Багдановіч,*
*б) Канстанцыя Буйло,*
*в) Наталля Арсеннева,*

Адказы дасылайце да 19 лютага 2012 г. (найлепш па электроннай пошце на адрас „Зоркі”). Тут разыграем цікавыя ўзнагароды: беларускія кніжкі, CD і гульні.

**Рашэнне конкурсу № 3:** вечар да Новага года на Падляшшы называлі Гагатухай (в); пад Новы год рыхтавалі кішку і кутэнь (б); варажылі з дапамогай курачкі (а); у „шчадроўках” часта называюць Васіля (б).

Узнагароды — ***кніжкі „Ой даўно, даўно”*** (гісторыі запісаныя беластоцкімі гімназістамі) — выйгралі **Магдаліна Навіцкая, Эльвіра Андрусевіч** з Бельска-Падляшскага, **Каміль Барташэвіч** з Дубін, **Наталля Марчук** з Нараўкі, **Марцін Аўярчук** з Арэшкава. Віншуем!

ЗОРКА

# Галерэя ЗОРКІ




Фота Ганны Кандрацюк

**1. Імя і прозвішча:** Лукаш Лісоўскі (ПШ н-р 4 у Беластоку).
**2. Твой любімы прадмет:** урокі мастацтва, фізкультура.
**3. У жыцці хачу стаць:** музыкантам.
**4. У сяброў цаню:** сяброўства.
**5. Не люблю:** школы.
**6. Па-беларуску размаўляю:** з дзядулем, бабуляй і настаўніцай беларускай мовы.
**7. Кніжка, якая мяне захапіла:** пакуль няма яшчэ такой кніжкі.
**8. Падабаецца мне музыка:** рок-музыка („Ляпіс Трубяцкой”) .
**9. Твае ўлюбёныя стравы:** бульба фры.
**10. Твой любімы спосаб адпачынку:** музыка, маляванне.
**11. Калі дарасту, хачу жыць:** у Супраслі або ў іншай невялікай мясціне на Падляшшы.

# Як ратавацца перад канцом свету

*(легенды якутаў)*

У горным цячэнні ракі Вілюй, у непрыветлівай для звяроў і людзей Даліне Смерці, можна сустрэць таемныя хаткі з металу. Сваім выглядам напамінаюць яны катлы ў кшталце цыліндраў. У іх сярэдзіне можа памясціцца чалавек з аленем. Менавіта ў існаванні гэтых аб'ектаў былі ўпэўнены паляўнічыя. Нярaз, хаваючыся ад марозу і сцюжы, яны былі вымушаны начаваць у катлах з гладкага металу, падобнага на медзь. Усярэдзіне, як пасля яны гаварылі, увесь час было цёпла і ціха. Карэннае насельніцтва, аднак, шырокім кругам абмінала падобныя аб'екты. Бо тыя, што пабывалі ў сярэдзіне жалезнага катла, звычайна пасля двух-трох месяцаў паміралі...

Пра якуцкія катлы ведалі таксама еўрапейскія падарожнікі і даследчыкі Сібіры. Міхал Карыцкі бачыў іх шмат у час сваіх экспедыцый (у 1933, 1937 і 1947 гг.). Апошні раз заначаваў у адным з катлоў разам з шасцю людзьмі. Сцены іх катла былі збудаваны з невядомага ім металу. Немагчыма было яго парысаваць навостраным долатам і раскалоць. Вакол доміка парастала трава ў паўтара раза большая за чалавека. Усярэдзіне Карыцкі знайшоў гладкі чорны камень. Ім пасля, калі будавалі дом, рэзалі як дыяментам шкло.

Начлег у таемнай капсуле выклікаў паслядоўнасці, пра якія папярэджвалі іх карэнныя жыхары. Пасля трох месяцаў адзін з членаў іх даследчыцкай групы страціў валасы. Сам Карыцкі да канча жыцця не мог вылечыць трох ранак на галаве...

Таемныя катлы па сённяшні дзень з'яўляюцца адным з найбольшых турыстычных атракцыёнаў Якуціі. Яны нібыта ёсць і аднaчасова іх немагчыма знайсці другі раз. А легенды і паэмы гэтага народа, прасякнутыя касмічнымі матывамі, проста захапляюць сучасных астрафізікаў. У адной з якуцкіх легенд прадбачана, напрыклад, *Тунгуская катастрофа* 1908 г. — славутае падзенне метэарыта. Цягам ранейшых гадоў у народзе пайшлі гутаркі пра канец свету. Мясцовыя шаманы дакладна назначылі месца і час „канца свету". Аднак гэта не абазначала татальнай канчыны ўсім і ўсяму. Тыя, якія жадалі захаваць жыццё, павінны былі пакінуць свае ўлусы і разам са статкамі аленяў перайсці, па новых качэўных сцежках, у аддеглыя населеныя пункты. Вялікае бежанства пачалося два месяцы да катастрофы. Раней яе тэрмін, каб не рассеяць панікі, быў хаваны ў таямніцы. Цікава, што разам з людзьмі ў тым самым часе з месца катастрофы ўцякалі дзікія звяры, птушкі і рыбы. Апошнюю з'яву даследаваў вучоны Леанід Кулік, у гонар якога названы планетоід 2794.

ЗОРКА

# Музыка з кайфам

## Тандэмам праз гіт-парады

Пашка і Радэк — два сябры, якія нарадзіліся па абодвух баках мяжы. Першы ў Беларусі, але сям'я ў яго з польскімі каранямі, другі — наадварот, на польскім баку, даглядае беларускага радаводу. Апрача сяброўства ў жыцці, паказалі яго частку на кінастужцы, якая пад загалоўкам „Тандэмам праз памежжа" мела сваю прэм'еру ў чацвер, 26 студзеня, у Беластоку.

Фільм гэты немузычны, кажу гэта на выпадак, калі хто спытае пра дачыненне карціны да нашай рубрыкі, але, як амаль кожны фільм, мае ён музыку ў фоне. На гэты раз незалежныя аўтары з калектыву „Podlasie Makes Me Happy" падабралі музыку беластоцкага гурту „Самыя музыкі". І тут сустракаемся ў кульмінацыйным пункце выхаду для гэтага расказу. „Самыя музыкі" робяць фон для веласіпеднага падарожжа на двухмесным роварі, які называецца тандэм! Калі маем тандэм, дык трэба ўспомніць пра музычныя дуэты. Першы, які мне зразу прыйшоў у галаву, гэта Ян Маўзэр і Нака, дуэт вядомы і папулярны апошнім часам з-за патрыятычнага гіта „Пагоня". Знойдзем гэтую песню на беларускіх музычных парталах, а на Падляшшы першае, што мне прыходзіць у галаву, гэта Алег Кабзар і Надзея Артымовіч, дуэт арыгінальны, бо напалову музычны, напалову паэтычны. Іншыя выдатныя дуэты ствараюцца ў беларускай музыцы амаль няспынна, успомню хаця б пра Русю і Ігара Варашкевіча з „Крамы", а то зараз рвецца на паперу Памідор, які, калі зможа, ахвотна не толькі паяўляецца ў студыі запісу, але таксама на канцэртах „IQ48". Цікавыя тандэмы паяўляліся не толькі ў сэнсе выканання, але, напрыклад, лідар успомненых „айкюшнікаў", Саша Ракавец, некалькі добрых гадоў таму супольна з журналісткай тэлеканала Белсат павёў фестываль „Басовішча". У гэтай ролі таксама праявілі свае магчымасці рэпер Крой супольна з Алесем Таболічам з гурту „Зніч" (а нават Стод — калі ў маленькім крызісе быў магутны „Зніч"). Як бачыце, пра магічныя дуэты можна было б амаль без канца: Аляксандра і Канстанцін, Вольскі/Вайцюшкевіч, Вольскі/Пугач, Юры Несцярэнка/Ilo і гэтак далей, ажно дайшлі б да Madonna/Justin Timberlake. Добры дуэт гэта класна, але галоўнае, каб разумець, калі гэта мастацкая вартасць, а калі гонкі за грашыма. А яшчэ цікава, калі сходзіць нас знянацку дуэтам Сяргей Міхалок з „Ляпісаў"?..

i_basovka@o2.pl

* * *

Сяджу на дрэве
Уздыхаю ў цішыне
Ты мой анёле
Пампу без цябе.
Твой смех цуд
Звальвае з ног
Калі глянеш на мяне
Млею
Звычайна
Шукаю я цябе
Дзе ты?
Не знаю

Фота Ганны Кандрацюк

### Якія мы

Людзі розныя ёсць.
Адны ціхія,
Сядзяць, як мышы пад венікам,
спакойна.
Яны вельмі прыкладныя і разумныя.
Другія гэта кавалак чорта
Бегаюць, крычаць, праклінаюць,
Не даюць дайсці да слова.
Скупыя людзі не падзеляцца
Нічым з беднымі,
Хаця тыя чакаюць дапамогі.
Людзі кажуць, што ты дрэнны
чалавек
Але падумай часам,
Як нудна было б,
Каб усе людзі былі аднолькавя!..

### Хвілінка

Як прыгожа сёння на лузе:
Зялёная трава і пахучыя кветкі.
Сёння тут спаборніцтвы
Паміж ветрам і дзьмухаўцамі,
Хто дужэйшы, хто прыгажэйшы.
Дзьмухаўцы ўзносяцца да сонца
Як папяровыя змеі,
А вецер нясе іх бясконца
Высока, высока, яшчэ вышэй,
Як сапраўдны сілач.
Нават кветцы не мяшае,
Што божая кароўка гойдаецца
на яе пялёстках.
Ці можа быць больш чароўнае месца
і хвілінка?

Агнешка СКЕПКА, Баб'я-Гара

# Польска-беларуская крыжаванка № 6

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

Адказ на крыжаванку № 2:

Ход, злоты, свет, свята, поза, ял, рой, кніга. Спор, свой, звяз, лета, фота Лі, рыбалка, як, ганак.

Узнагароды, запісныя кніжкі, выйгралі **Вераніка Пташынская, Агата Яканюк** з Дубін, **Караліна Кавэцкая, Патрыцыя Міхальчук** з Бельска-Падляшскага, **Павел Валкавыцкі, Барташ Ламашкевіч** з Нараўкі, **Наталля Савіцкая** з Гайнаўкі, **Мая Мішчук, Каміля Навіцкая** з Арэшкава. Віншуем!

| | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | Wiewiórka / Lena | | | | Mąż / Cukierek | | | |
| Bór | La | Zadanie | | | Halo! | Cud | | | | Cios |
| Panna | | | | | | Rząd / Auto | | | | |
| Zdrowie | Aniołek | | | | | | | Mur | | Mama |
| | | | | | | | | Ar | | |
| | | | | | Trawa | | | | | |
| | Wieloryb | | Twarz | | Akr | | | | | |
| | | | | Ara | | | | Bierz | | |



# Дар трет’ому поколіэен’у

*У месяцы маі 2000 г., у час абходаў палёў вёскі Храбалы, якое адбываецца ў дзень Святога Духа, пазнаёміўся я з **Мікалаем Врублеўскім**. Тады і ўзнікла ідэя выдання фундаментальнага „Слоўніка гаворкі вёскі Храбалы”. Шэсць гадоў са спадаром Мікалаем працавалі мы над яго рэдакцыяй і выданнем, спачатку ў форме сшыткаў у рамках „Бельского Гостінця”, пасля асобнай кніжкай. Выдадзены ў 2008 г. „Слоўнік говуоркі бельско-пудляшскуй”, які складаецца з амаль 20 тысячы слоў, стаў першым лексічным зборнікам падляшска-рускай мовы, якой спакон вякоў карыстаюцца беларусы Бельшчыны, Гайнаўшчыны і Пабужжа. Працу над слоўнікам спадар Мікалай пачаў яшчэ ў 1967 г., але з-за розных прычын не мог ён доўга яе завяршыць.*

*У апошні дзень 2011 г. паводле старога стылю (13 студзеня) развіталіся мы з **Мікалаем Врублеўскім**. Пасля літургіі і адпявання ў Петрапаўлаўскай царкве ў Райску, быў ён пахаваны на тутэйшым могільніку, побач бацькоў. Айцец Яраслаў Годун, настаяцель прыхода, у сваім слове падкрэсліў заслугі пакойнага для грамадства і збераження яго найпрыгажэйшай мовы.*

*Ніжэй „Ніва” друкуе размову з Мікалаем Врублеўскім, якую правёў я ў 2006 г., калі завяршалі мы працу над рэдакцыяй слоўніка. У запісе размовы выкарыстаны правапіс, які для падляшска-рускай мовы апрацаваў **Мікалай Врублеўскі**.*

***Дарафей Фіёнік***

**— Народіліс’е Вы в ліэетах, колі нашы л’уде сталі вже на ногі посл’а поворотув з біеженства. Јакімі помніте Храболы, іх л’уді, прыроду, з часу Вашого дз’еціньства.**

— Мој год рожд’еніја 1936. Часу довојенного не помн’у. А војна то був такі епізод, которы умоцовавс’а в памеіті. Мы жылі на кол’оніі Храболы, на урочыску Осушок. Терены поніжеј Осушка былі віл’гуэотны. Не можна было сушыті сіена на міесц’у. В час косіэен’а треба было і через воду перебіватіс’е, потуэом траву прыносіті в рыэезках на Осушок і сушыті. Як былі весноју ростопы, тыје лонкі вода залівала аж пуэод сам Осушок, не говорывшы про терены бліжеј в’оскі. В час мого дз’еціньства Орл’анка была повноводнују рыкоју. Міела мнуого закол’ув. В трыццатых роках рыэечку выпростовалі, вода почала хутко збігаті. Тепер вона не розліваједц’а як колісʼ.

От’ец муэой С’еміон Романовіч і мама Анна зајмаліс’е господаркоју. От’ец уважав, што таја господарка што јест, може даваті буэольшы доходы і з тым выходів до вјоскі. Одным з нелічных пренумерував часопісма рол’нічы. Хіба був першым господаром, јакі почав косіті збуэоже, до того часу серпом жалі. Потуэом хутко помін’алі серпы на косы. Было то коло вујны.

Бліско нас, де мы жылі, нікого не было. Коло пул кіл’ометра даліеј находілас’е перша кол’онја, потуэом друга, дал’еј вјоска. В годах 1939-1941 г. в ліэесі Голубкове, так ліэес называлі, стојаті муэог 5 Стрелковыј Корпус, јакі подл’агав пуэод Страбл’у. Воны стацыјоновалі там, де капліц’а, которуј не помн’у, бо за советув јеі розобралі і зробілі бан’у в вјосці.

**— Ваша перша школа была в Гат’ках, два кіл’ометры од дому...**

— Едукацыја была тыпова. В 1944 рокові пушов до першуј кла’сы. Ал’е в свјазі з тым, што руэок спузнен’а міэев, то другуј кл’асы вже не переходів, оно од разу був промованы до трет’уј. Так мнуэого з тых поколен’ војенных і посл’авојенных такім способом здобывалі едукацыју. В Гат’ках в 1944 р. школа не была кл’асычно б’елорускомовна. Учытел’ом був католік Домбровскі і говорыв до нас по пул’ску. Ал’е сама молод’ож міэежду собоју говорыла в гвары. І в такі способ, можна поніматі, школа была б’елоруска.

**— Јакоје значенн’е дл’а Вас міэела дал’ша учоба в біел’скім б’елорускім ліцејові.**

— Шосты клас скунчыв в Гат’ках, а вже до с’омуј подавс’а до Біел’ска. То був 1949 руок і ја трафіф јакраз на організацыју белорускогo ліцэја. Там скунчыв с’омы і одразу перешов в ліцеј.

Осен’оју і весноју јездів до школы ровером або аутостопом. А на зіму прыголубіла мене в Біел’ску родзіна. Разом з отцом Грыгоріјем Сосноју, молуэодшым на тры ліэета од мене, жылі мы јакіјс’ час на гуліці Огродовуј. З тых часуэов особліво запометалос’е тоје, што всіэе повтарајут, јак Јарослав Костыцевіч знімав шапку перед ученікамі, з дал’ека вже, першы клан’авс’а. Дысцыпліна в школі была тоже.

Потуэом вышла пропонова, скірована до мене, не знају туэол’кі з чыјеі ініцыјатывы, коб ја поступів учытіс’е на Беларускі Дзяржаўны Універсітэт. Першы пл’ан був такі, коб поступіті на оддзел філ’ологічны. Ал’е тут кол’ежанка Зос’а Грыц з Гајнувкі, котора міела тоже јехаті до Мінска, попросіла замініті’е. В туэом часі ја не бачыв велікуј разніці поміж одным а другім. Можна было туэол’кі догадыватіс’е, што на хеміі буде трудн’еј чым на філ’ологіі. Појехав ја до Мінска однак так, јак раніэеј пл’ановав. Проучывс’а на БДУ туэол’ко руэок і вернувс’е до Храболуэов. Тут колхоз д’ејствовав і через руэок був ја на господарці.

В 1956 рокові зорганізовалас’а в Варшаві катедра філологіі б’елорускоj. Знов, можна сказаті, Јарaслав Васіліевіч Костыцевіч покіровав моім л’осом. Прыјіждж’ав до Храболуэов і намовл’ав мене, коб іті на тыје студыја до Варшавы. І в паз’дз’ерніку ја нашовс’а серед 23 студентув філ’ологіі. Буэол’шосц’ походіла з Біел’шчыны, з б’елорускогo ліцэја. Спецыјал’ных зм’ен в моім жыц’у за тыје п’ат’ ліэет не было, прошов через іх, можна сказаті, безбол’есно. Так роскладав енергіју, што не было екзам’ену, которого за першым разом бы не здав. Через тоје был нетыповым ученіком, бо кажут, колі не облііеш јакогос’ екзамену, то жад’он з тебе студент.

**— Наука, значыт, даваліс’а Вам л’огко...**

— Ја старавс’е не доводіті до екстремал’ных сытуацыі, бо знав, што јак за першым разом не залічу екзамену, то може быті клопот з залічен’ом вообшче того року. Студыјовав троху з ніжшымі стопн’амі, јак в школі, де не міэев жаднуј труэоjкі, а тут выходіло ружн’е. В ліцејові то всіэе предміэеты мніэе руэовно выходілі, не было выразных выружн’ен’. Најтрудн’еј было перебіватіс’е через математыку. З інных предміэетув без прыготовуван’а ішов, а з математыкі треба было довго сідіэеті.

**— Јак вспомінајете професорску кадру з філологіі.**

— Најбуэол’шы вплыв особовы міэела на мене професор Антоніна Обрэмбска-Јаблонска, котора організовала тују Каф’едру і вела јеі. Професор была бардзо сымпатычна, троху напоміналa Јарослава Костыцевіча. Інтересовалас’а не туэол’ко постемпамі в науці, але і тоже л’осом особістым студентув. Была бардзо спрыјал’на л’уд’ам. В свјазі з тым, што на міэесц’у не было спецыјалістув з б’елорускогo мовознавства і літературознавства, былі запрошоны професора з Мінска. І ціэелы час наукі там было мнуэого професорув.

**— Наступны ліэета свого жыц’а Вы звјазалі м’еновіто з працоју на Каф’едры Б’елорускуј Філологіі...**

— Працу магістерску на тему „Францішак Багушэвіч — жыццё і творчасць” ја залічыв на пјат’. Пісалос’е л’еп’еј чым здавалос’е екзам’ены. І то хіба споводовало, што одным з кандыдатув на асыстента став ја. Спочатку був ја асыстентом, посл’а выкладчыком літературы. В час выкладув концентровавс’е на XIX віэекові. Најбуэол’ш мене інтересовало м’еновіто одродзен’е б’елорускосці в тој час.

**— Тоје, што зан’аліс’е Вы мовознавством, вынікало тоже з пл’анув працы на учел’ні?**

— Тут діэело выгл’адало так, што вже в час студыјув мы јездзілі на Б’елосточчыну і запісвалі говуэоркі. Працујучы на учел’ні і мајучы певну подготовку по јазыкознанії, ја подумав, што л’епіеј сконцентрујус’а тут на тыхных стыках з б’елорускосц’у, на јазыкові. Бо література, так чы іначеј оцен’вана је на подстав’е документацыі, а тут відно было, што умыкаје јазык і јого трудно буде потуэом одтворыті. Тогды ціэелы час у нас в хаті говорылос’а на своjуэом јазыкові, шче не было такуэој свјадомос’ці, што то реч важна. Туэол’кі через подрыхтовку заводову дошов до вн’оску, што јест то буэол’ш вартос’ц’ове, чым моја концентрацыја на літературы.

Мајучы троху свобуэодного часу, зачав реалізоваті замјар опрацован’а словніка. Першы до јого матерыјалы былі зобраны на подстав’е такого квестјонарјуша, которы був опрацованы через проф. Јаблон’ску і професорув з Мінска, а таксамо проф. Смулкову, тогды шче доктор. Квестјонарјуш мы выкорыстоўвалі до запісу л’ексікі з пошчегул’ных дз’едзін жыц’а. Розбівалос’а то на предміэеты, прыміэерно: ткацтво, пчоловодзтво, і в такі спосуб штос’ в родзају невелічкого словніка вже было опрацоване. В опрацован’у допомагалі увчесны студенты, выходцы з Б’елосточчыны — Міколај Іванчук з Маліннік і Віктор Стахв’ук з Трысц’анкі.

Ал’е ја, концентрујучыс’а вже самостојат’ел’но на туэом словніку збірав матерыјал в розмовах безпос’редніх з старшымі л’уд’мі. З тых інформаторув, буэол’шосц’ з іх, опроча біеженства, нігде поза своју вјоску на довжеј не выіжджэалі, мало міэелі стычносці з цывілізацыју поза вјоскоју. Воны былі нос’бітамі того кл’асычного јазыка, которы ціэелымі стол’ет’амі кшталтовавс’а до того часу. Ја од самого початку свјадомого жыц’а стыкавс’е с тeју мовоју і досконало јеі розуміэев. То было головным аргументом на тоје, коб зајматіс’а тым з повным професыјоналізмом.

**— Словнік складавс’е, колі жыло шчэ доволі мнуэого л’уді, народжоных перед біеженством, навет в другуј половіні XIX в. Шырокі був круг Вашых інформаторув?**

— З перед біеженства былі моје родіт’елі. Мама з 1906, а тато з 1904 р. І батькі былі в јакумс’ стопн’у інформаторамі. А наогул, інформаторамі было кіл’ка л’уді покол’ен’а з перед І вуэојны. Тут ціэела вјоска појехала в б’еженство. В час побыту в глубініе Росіі позналіс’а з рускоју кул’туроју, в першују очеред’ јазыком, так што зам’ечајецц’а вплыв руского јазыка на јазык, которым л’уде тут послуговаліс’а. Ал’е то не такіј велікіј, јак тут некоторым здавалос’а. Јак вернуліс’е л’уде з біеженства, то хутко перешлі на тој ран’ејшы јазык, которы захововс’а в старејшым покол’ен’у.

Новы слова шлі з новымі десыгнатамі, тоје што было зв’азане з нов’ејшым жыц’ом. Буэол’шенство словніцтва вернулос’а до того, што было раніеј. Пуол’скі вјоскі: Репн’ево, Грын’евічы міэелі меншы вплыв, бо то былі высповы в’оскі, окружоны біэелорускімі с’оламі. На заход былі шче такіје Гусакі, Мал’ешы, і кунец’ стрефы рускомовнуј. Через само положен’е бліс’ко тej граніці, вплыву на мову буэол’шого не было. Л’ексыка пуэол’ска ішла разом з пуэол’скоју цывілізацыју. Коліс’ не было потребы користан’а пул’скім јазыком. Тепер таја цывілізацыја впісуєц’е в жыц’е вјоскі, а слова „старејі” цывілізацыі станов’аўц’е непон’атнымі...

**— Так як діэет’ам слово *засупоніті* нічого не говорыт...**

— Воны не знајут, што то *супоны*... Так шче одну рэч хочу подкресліті. Хотіэев бы, коб то не прогучало јак нацыјоналізм, але в ціелуј в’осці была коліс’ туэол’кі одна особа з с’родовіска пуэол’ско-католіцкого, јакаја прышла замуж за м’ешканц’а Храболуэов. Туэол’кі вона одна до самуэој вујны была католічкоју, але прын’ала тују мову. З часом выјехала до Б’ел’ска... Ал’е тепер почавс’е наплыв с’ем’ув спозa регіону. Так јак на інных в’осках мнуэого добрых домуэов роспадаецц’а, нішчыэеје, то тут наоборот — не туэол’кі старыје домы сохраніліс’е, ал’е і будујут новы.

*(працяг будзе)*

Сяргей ЧЫГРЫН

# Архіепіскап Філафей (ч. II)

*(працяг з 5 н-ра )*

У сакавіку 1942 года ўладыка Філафей атрымлівае тытул магілёўскага і мсціслаўскага, яго ўзводзяць у сан архіепіскапа і прызначаюць намеснікам мітрапаліта Панцеляймона.

2 чэрвеня 1942 года жаўнеры СД на аўтамабілі прымусова адвезлі мітрапаліта Панцеляймона, якога не змаглі пераканаць у неабходнасці беларусізацыі царквы, у манастыр Ляды, які знаходзіўся сорак кіламетраў ад Мінска. Мітрапаліт паспеў толькі падпісаць дэкрэт на імя Філафея наступнага зместу: „З поваду свайго выезду з Менска на ўвесь час маёй адсутнасці паручаю Вам усе справы Беларускай Праваслаўнай Мітраполіі. 1.06.1942 году, Менск" (архіепіскап Афанасій (Мартас), „Матэрыялы да гісторыі Праваслаўнай Беларускай Царквы", Жыровічы 2004, с. 83).

Пасля таго, як мітрапаліт Панцеляймон быў адвезены ў Ляды, актыўна пачалася праца Прадсаборнай камісіі для агалашэння аўтакефаліі Беларускай Праваслаўнай Царквы. Быў падрыхтаваны Статут Праваслаўнай Аўтакефальнай Царквы, разгледжана пытанне, хто адкрые Царкоўны Сабор і іншыя справы. Мітрапаліт Панцеляймон даў пісьмовую згоду, каб Царкоўны Сабор адкрыў яго намеснік Філафей.


Радаслаў Астроўскі і Філафей, 1942 г.

У нядзелю, 30 жніўня 1942 года, у Мінску сабраліся беларускія святары і вернікі на Усебеларускі Царкоўны Сабор, каб абвясціць незалежнасць Беларускай Праваслаўнай Царквы і прыняць Статут, якім павінна кіравацца Царква ў сваёй самастойнай дзейнасці. Перад пачаткам Сабора ў Спаса-Праабражэнскай царкве адбыўся ўрачысты малебен. Адслужыў яго архіепіскап Філафей у суправаджэнні епіскапа віцебскага і полацкага Афанасія, епіскапа смаленскага і бранскага Сцяпана і шматлікага духавенства. Потым Філафей адкрыў Сабор, а сакратар Сабора святар Аляксандр Апанасевіч зачытаў спіс яго ўдзельнікаў. У сваёй прамове архіепіскап Філафей падкрэсліў, што ўсе падставы для існавання аўтакефаліі на Беларусі ёсць: Беларуская Царква існуе незалежна ад іншых Цэркваў, ёсць іерархі, епархіі, благачынні, прыходы, створаны курсы для кандыдатаў на святароў і г.д. Неабходна толькі аўтакефалію аформіць. „Сёння мы тут сабраныя на сьвяты Сабор Беларускае Праваслаўнае Царквы, навязваем лучнасць з найпрыгажэйшымі ў гісторыі Беларусі часамі XIII, XIV і XV стагоддзяў. Гэта былі часы вялікае славы і росквіту Беларусі, прыгожыя часы росквіту Беларускае Царквы. Тады ўжо былі паложаны фундаменты для яе аўтакефальнасці, для яе незалежнасці. З таго часу мінула многа год, а беларускі народ і Праваслаўная Царква многа перажылі розных няшчасцяў, крыўдаў, паніжэнняў. Усё ж, аднак, Бог Усявышні не пакідаў нашага народа і зноў даў яму магчымасць арганізавання свайго жыцця рэлігійнага, культурнага, гаспадарчага... Беларусь вызвалена ад бальшавіцкае няволі і пачынае новае жыццё. Мы сюды сабраліся, каб радзіць над справамі нашае Святое Праваслаўнае Царквы, над арганізацыяй ейнае працы. Памолімся, каб Усявышні благаславіў нас і нашую працу", — казаў у сваёй прамове архіепіскап Філафей і пра гэта 4 жніўня 1942 года пісаў тыднёвік па Беластоцкай акрузе „Новая дарога".

Пасля выступлення Філафея чыталіся рэфераты, разглядаўся праект Статута Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы. А 2 верасня 1942 года Статут БПАЦ быў прыняты. Адначасова была прынята пастанова аб поўнай незалежнасці Беларускай Праваслаўнай Царквы. „Дзень 2 верасня 1942 года, у які была абвешчана аўтакефалія Беларускай Праваслаўнай Царквы, застанецца ў гісторыі Беларусі як адзін з найвялікшых гістарычных дзён", — пісала тая ж „Новая дарога" 4 жніўня 1942 года.

Але ж у далейшым епіскапы не давалі патрэбнага ходу саборным пастановам аб завяршэнні аўтакефаліі. Толькі 20 красавіка 1943 года епіскапы падпісалі лісты да канстанцінопальскага патрыярха і да іншых самастойных Цэркваў.

Летам 1944 года, калі немцы пачалі адступаць, а Чырвоная Армія паціху рухалася на Захад, епіскапы БАПЦ эвакуяваліся ў Германію. Туды выехаў і ўладыка Філафей. 5 мая 1946 года ў Рэгенсбургу адбыўся з'езд праваслаўных беларусаў Германіі, дзе абмяркоўвалася некалькі сур'ёзных пытанняў, а таксама пытанне аб пераходзе беларускіх епіскапаў пад юрысдыкцыю Рускай Праваслаўнай Царквы за мяжой. Філарэт Родзька (1890-1980) і Аляксандр Орса (1896-1959) сталі перад епіскапамі Філафеем і Афанасіем на калені, молячы іх, каб не ехалі ў Мюнхен падпісваць акт аб далучэнні БАПЦ да Рускай Праваслаўнай Царквы за мяжой. Епіскапы не паслухалі сваіх землякоў. І 6 мая 1946 года ў Мюнхене на Архіерэйскім Саборы Рускай Праваслаўнай Царквы за мяжой епіскапат БАПЦ увайшоў у Архіерэйскі Сабор РПЦ за мяжой. Рашэннем гэтага Сабора архіепіскап Філафей быў прызначаны вікарным епіскапам у Берлінска-Германскую епархію з тытулам гесенскага і рэзідэнцыяй у Вісбадэне.


Усебеларускі Царкоўны Сабор. У першым радзе з посахам сядзіць Філафей, справа ад яго — епіскап Сцяпан, злева — епіскап Афанасій. 1942 г.

У 1953 годзе Філафей атрымаў новую царкоўную пасаду — ён стаў епіскапам гамбурскім і Паўночнай Германіі. Па яго ініцыятыве ў Гамбургу быў пабудаваны сабор св. Пракопа. А побач з саборам у адным з царкоўных памяшканняў жыў сам епіскап.

У 1971 годзе ўладыка Філафей стаў архіепіскапам берлінскім і германскім. Яму было дазволена насіць алмазны крыж на клабуку. А праз дзесяць гадоў прэзідэнт ФРГ узнагародзіць Філафея „Крыжам гонару" першай ступені.

Вясной 1981 года ў архіепіскапа здарыўся інфаркт. А ў верасні 1986 года яго не стала. „Мне ўдалося набыць кавалак зямлі каля найпрыгажэйшай царквы на могілках у Вісбадэне. Маё будучае месца — у якіхнебудзь дзесяці кроках ад магілы Філафея. Такі лёс", — прыгадвае ўсё той жа Барыс Кіт, згадваючы Філафея (Аляксандр Адзінец, „Паваенная эміграцыя: скрыжаванні лёсаў", Мінск 2007, с. 634).

Царкоўная дзейнасць архіепіскапа Філафея (Уладзіміра Нарко) у справе беларускага рэлігійнага жыцця, як у Беларусі, так і беларусамі на эміграцыі, заўсёды ацэньвалася неадназначна і характарызавалася непаслядоўнасцю. Тым не менш, гэта даволі вялікая царкоўная асоба ў гісторыі нашай Бацькаўшчыны і забываць яе нам нельга. І апошняе. У энцыклапедычным даведніку „Рэлігія і царква на Беларусі" (Мінск 2001) архіепіскап Філафей нават і не згадваецца.

***Папраўка:** У папярэднім нумары на 12 старонцы ў першай частцы артыкула пра Філафея была дапушчана памылка: подпіс пад верхнім здымкам адносіцца да ніжняга, а пад ніжнім — да верхняга.*




Ірэна ЛУКША

# Марк і іншапланецяне

Настаўнік геаграфіі, саракагадовы Марк Коржаль, любіў шпацыраваць ноччу па горадзе. Бацькі, цесці, жонка і дзеці пераконвалі яго, каб перастаў хадзіць ноччу адзін.

— Ты, сынок, апамятайся, — прасілі бацькі, — сёння небяспечна хадзіць у адзіночку начамі. Шпацыруй днём. У дзень ходзіць шмат людзей, начной парою валочацца толькі хуліганы і рабочыя другой змены.

— З-за сваёй бяздумнасці хочаш асіраціць жонку і дзяцей, — наракалі цесці. — Такі малады можаш пайсці ў зямлю з-за якогась бандыта.

— Табе зусім у галаве памяшалася, — злавалася жонка. — Чаго ты снуешся да першай гадзіны ночы? Хочаш загінуць невядома ад каго?

— Тата, ты не хадзі ночу па горадзе, — прасілі дзеці. — Аднаму хадзіць небяспечна. Купі вялікага сабаку, ён абароніць цябе ад бандытаў.

— Вы чаго да мяне прычапіліся?! — злаваўся Марк.

— Мы хочам, каб ты ноччу быў дома, — сказалі ўсе.

— Начны шпацыр лепшы чым днём. Менш самаходаў і смуроду. Людзей на вуліцах таксама мала. Моладзь ходзіць групамі, да мяне не чапляецца. Сабака мне непатрэбны, зашмат з ім клопату.

— Ты сам на сябе няшчасце сцягнеш! — не адставала жонка. — Нездарма кажуць — „начны Марк".

Марк нікога не слухаў. Ад дзесятай гадзіны ночы хадзіў па вуліцах горада — аж за поўнач.

Аднойчы ішоў як заўсёды. Раптам пачуў нейкі трэск і асляпіў яго вялікі бляск. Не паспеў апамятацца, калі перад ім, быццам з-пад зямлі, выраслі маладыя хлопцы. Усе яны былі высокія і апранутыя ў чорныя касцюмы, мелі на галовах капелюшы.

— Скажы нам, дзе мы ёсць? — спыталіся.

— Ой, хлопцы, вы, здаецца, зашмат выпілі, — засмяяўся Марк. — То ж на зямлі мы, а не ў небе.

— Вось добра, — уцешыліся хлопцы. — На канец мы трапілі на планету Зямля. Будзем рабіць навуковыя доследы над усім. Цябе будзем даследаваць першага.

Марк злякаўся, калі замест паху гарэлкі пачуў ад незнаёмцаў пах кавы.

Хлопцы ўзялі Марка пад рукі і павялі як дзіця ў свой самалёт. Выглядаў ён як дзве вялікія спалучаныя адна з адной талеркі. Стаяў ён пасярэдзіне кругавой дарогі каля касцёла і блішчаў як сонца. Марк заплюшчыў вочы, каб не аслепнуць. Пачуў шум адчыняючыхся дзвярэй і адплюшчыў вочы. Усё паказвала на тое, што апынуўся ён у нейкай хімічнай зале. Пахла кіслатой. Усюды сталі нейкія апараты, якія званілі быццам будзільнікі. Адзін хлопец хадзіў па зале і прыглядаўся апаратуры.

— Усё ў парадку, — сказаў. — Можам прыступіць да доследаў.

Калі хлопцы адвярнуліся да Марка тварамі, ён убачыў, што яны зялёныя, а іхнія чорныя вочы злавесна ўзіраліся на яго асобу. Адчуў на спіне халодныя мурашкі.

— Ты наш матэрыял, — сказалі іншапланецяне хорам. — Мы, жыхары планеты Аформія, знайшлі тое, чаго здаўна шукалі!

Адзін іншапланецянін схапіў Марка за карак. Мужчына не мог крануцца з месца. Другі выцягнуў яму рукі да пераду, ажно затрашчалі косці. Трэці балюча сціснуў яму ногі. Чацвёрты ўбіў яму ў левую далонь агромную іголку. Усё цела пякло жывым агнём. Марк заверашчаў.

— Слабы твой крык! Земляне крычаць ад болю слабей чым мы. Убі яму іголку ў лытку. Цікава, ці гучней будзе.

— Госпадзе, памажы мне! — енкнуў Марк. — Архангеле Міхаіле! Святы цудатворча Мікалаю, малі Бога за мяне!

Іншапланецяне пусцілі ахвяру і сталі трасція як асіны. Марк паляцеў уверх, як птушка, пасля ўпаў на нешта цвёрдае. Устаў і ўбачыў, што апынуўся каля свайго дома. Хутка пабег у сваю кватэру. Расказаў жонцы пра сустрэчу з іншапланецянамі.

— Пэўна, цябе хтосьці добра ўрэзаў па галаве і ты страціў прытомнасць! — паківала галавою жонка.

— А гэта што? — Марк паказаў чорную пляму на далоні.

— Памый рукі, то і знікне!

Пляма з Маркавай далоні не змылася да сённяшняга дня. Яна не баліць і не перашкаджае настаўніку геаграфіі ў жыцці. Затое ён ноччу сядзіць у хаце і раіць знаёмым, каб не валэндаліся ноччу па Гайнаўцы.



Тэкст і фота Уршулі ШУБЗДЫ

# Янаўскія ткачыхі



Штогод Гмінны асяродак культуры ў Янаве арганізуе конкурс на найпрыгажэйшую двухаснавовую тканіну. Галоўнай мэтай мерапрыемства з'яўляецца падтрымка ўнікальнай ткацкай традыцыі. Вядучай тэмай сёлетніх конкурсных прац былі заняткі вясковай жанчыны на Падляшшы. Усе тканыя дываны можна было паглядзець у Ваяводскім асяродку анімацыі культуры па вуліцы Кілінскага ў Беластоку, а цяпер у Музеі двухаснавовага ткацтва ў Янаве.

Янаў і навакольныя вёскі гэта адзінае месца ў Польшчы, дзе падтрымліваецца арыгінальная тэхніка двухаснавовага ткацтва. Ваўняныя тканіны ствараюцца на ручных кроснах. Жанчыны пераплятаюць нітачкі ў гэтакі спосаб, каб на абодвух баках дывана паўстаў такі самы ўзор, але рознага колеру. Даўней такую работу папярэджвала дадатковая апрацоўка воўны: стрыжка авечак, суканне, прадзенне. Сёння большасць жанчын проста купляе воўну, але яна заўсёды фарбаваная натуральным спосабам. Дзякуючы таму дываны карыстаюцца папулярнасцю не толькі ў Польшчы, але і ў свеце.

Сёлета конкурсныя працы аб'ядноўвала галоўная тэма — заняткі вясковай жанчыны на Падляшшы. На дыванах, акрамя традыцыйных узораў, паявіліся жаночыя постаці пры штодзённых занятках, такіх як прыбіранне панадворка, капанне бульбы ці пячэнне хлеба. Філамена Круповіч у сваёй працы паказала як змяніліся абавязкі на вёсцы на працягу стагоддзяў. На адным баку дывана жанчына поіць кароў, корміць сабаку, курэй, а ўжо на другім — гуляе з сябрамі пры грылі. Можна нават убачыць аўтамабіль, які сведчыць аб роўнасці паміж мужчынамі і жанчынамі.

З васьмі ўдзельнікаў конкурсу першае месца заняла праца Тэрэсы Прызмонт „Прыбіранне панадворка" (*на здымку*).

— Гэта заўсёды вельмі цяжкі выбар, таму што ўзровень прац вельмі аднолькавы, — адзначыла Крыстына Куніцкая з Ваяводскага асяродка анімацыі культуры ў Беластоку, сябра журы конкурсу. — Ацэньваем наколькі ўдалося ўявіць тэму конкурсу, ці ёсць штосьці новае ў працы. Сапраўды шмат фактараў уплывае на канчатковае рашэнне.

Жанчыны свае мастацкія вырабы прэзентавалі ўжо ў Варшаве, Любліне і Торуні. На адной з выставак працамі ткачых зацікавілася жанчына з Японіі.

— Яна ўбачыла нашы дываны на Кірмашы народнай творчасці, — расказвала пераможца сёлетняга конкурсу Тэрэса Прызмонт. — Вельмі спадабаліся ёй нашы працы. Яна вырашыла сарганізаваць выстаўку ў Японіі. Учора тэлефанавала мне, каб яшчэ даслаць дываны, бо ўсе ўжо раскупілі.

Янаўскія ткачыхі пасылаюць у Японію дываны з элементамі народнай творчасці, характэрнай для Падляшша. Аднак узоры, якія карыстаюцца там вялікай папулярнасцю, гэта разнародныя кветкі. Менавіта такія тканіны цяпер рыхтуюць жанчыны для высылкі ў Японію.

Асобы, якія наведваюць Музей двухаснавовага ткацтва будуць мець магчымасць



паглядзець вырабы янаўскіх майстрых. Акрамя таго можна навучыцца тут розным ткацкім тэхнікам і самому паспрабаваць выткаць тканіну.

— Хто хоча гэтаму навучыцца, напэўна навучыцца, — заахвочвала Тэрэса Прызмонт. — Аднак трэба памятаць: адзін дыван гэта адзін месяц работы!




Занядбаны стан беларускай мовы ў Беларусі, неабвешчаная вайна супраць яе з боку лукашэнкаўскіх улад дзеля цалкавітага выкаранення, наплявальніцкае стаўленне да яе з боку зманкуртаванага плебсу яшчэ не прычыны пагаджацца з такім становішчам і забывацца пра тое, што мы з'яўляемся беларусамі. Адным з прыкладаў жадання захаваць сябе як нацыю можна назваць існуючае на Беласточчыне з 2006 года Аб'яднанне бацькоў, беларушчынай апантаных (АБ-БА). Бліжэй пазнаёміцца з яго дзейнасцю дапаможа сайт арганізацыі АБ-БА ў інтэрнэце, які месціцца па адрасе **www.ab-ba.com.pl.**

Першая старонка сайта выглядае вельмі прывабліва. Гэтая прывабнасць абумоўліваецца даволі арыгінальнай, але ў той жа час традыцыйнай пабудовай. На сайце не знойдзеш адказу на пытанне чыіх гэта рук справа, але над віртуальным прадстаўніцтвам суполкі АБ-БА рупіўся выдатны майстар. Пад загалоўкам, які падаецца па-беларуску і папольску, месціцца фотаздымкі і малюнкі, якія змяняюць адзін аднаго і з'яўляюцца выйсцем да некаторых рубрык. Такі „відзашэраг" адразу дае магчымасць усвядоміць, чым з'яўляецца АБ-БА і чым займаецца. Праўда, калі прайсціся па рубрыках, першапачатковыя веды і здагадкі дапаўняюцца вельмі карыснай інфармацыяй, якая так і штурхае да далейшага, ужо можа рэальнага знаёмства з „беларушчынай апантанымі".

„Наша галоўная мэта — усякага кшталту дапамога дзецям і моладзі, якія вывучаюць беларускую мову", — так сціпла і ў той жа час канкрэтна акрэсліваюць сэнс сваёй актыўнасці сябры аб'яднання ў рубрыцы „Пра нас". Там жа, у чатырох падрубрыках месціцца звесткі аб гісторыі арганізацыі, яе галоўных мэтах, управе і месцах у Беластоку, дзе дзеці далучаюцца да беларускай мовы. Сярод накірункаў працы аб'яднання — падтрыманне нацыянальнай тоеснасці вучняў; адукацыя і асвета; арганізацыя вучням адпачынку; арганізацыя заняткаў па-за школай; выданне кніжак і дыскаў; дзейнасць на карысць беларускай нацыянальнай меншасці ў Польшчы і польска-беларускай інтэграцыі.

З усяго сайта найбольш напоўненай інфармацыяй, прычым вельмі важнай і карыснай, з'яўляецца рубрыка „Дзейнасць". Праўда, будова яе не адразу зразумелая — калі зойдзеш на старонку, то нічога акрамя падрубрык не пабачыш. Ну а калі ж такі выгляд інспіруе да клікання на любую з падрубрык, то перад намі адкрыюцца падрабязныя расповеды пра ўсе накірункі дзейнасці суполкі АБ-БА, аздобленыя шматлікімі фотаздымкамі. Прынамсці, адсюль мы можам даведацца, што дзейнічае ў Беластоку тэатральны гурток, які вядзе настаўніца беларускай мовы Аліна Ваўранюк. Намаганнямі аб'яднання ажываюць на тэатральных падмостках расповеды і ўспаміны падляшскіх беларусаў, пра што сведчыць падрубрыка „Падляшскія хронікі". Пра студыю дзіцячага фальклору, якая паўстала ў 2006 годзе, можна даведацца з аднайменнай падрубрыкі. Увогуле дзейнасць арганізацыі АБ-БА за апошнія гады шырокая — яна ладзіць летнікі, экскурсіі, дыскусіі і нават малебны па-беларуску з нагоды пачатку ці заканчэння навучальнага года.

Што ж тычыцца менавіта сайта, то паколькі ён узнік нядаўна, то патрабуе яшчэ дадатковай працы. Так, варта запоўніць існуючую, але пакуль пустую рубрыку „Мультымедыі", а таксама ўдасканаліць „Галерэю", дзе, па ўсім відаць, будуць размешчаны ўсе „аб-баўскія" фотаздымкі і відэасюжэты.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

## Скарбы БЕЛАРУСІ

### Загадка манастыра

У нашай краіне багата яскравых легендаў, пераплеценых з рэальнымі гістарычнымі падзеямі, што дайшлі да нашых дзён і не даюць спакою ні мясцовым жыхарам, ні даследнікам мінуўшчыны. Чорная дама Нясвіжскага замка, чароўнае возера Свіцязь, прывіды Крэўскага замка і Гальшанскага кляштара. Кожны, хто пачынае даследаваць гэтыя з'явы, ці нават проста вандраваць па гістарычных мясцінах, наведваць месцы, ахутаныя таямнічасцю, рана ці позна сутыкнецца з пэўнымі анамаліямі і загадкамі, якія не проста вытлумачыць і асэнсаваць. Калі сутыкаемся з легендамі, заўсёды цяжка вызначыць, дзе рэальнасць, а дзе факты. Старыя руіны, старажытныя муры, нетры азёраў і балот неахвотна раскрываюць свае таямніцы. Толькі яны, сведкі старажытных падзей сівой даўніны, памятаюць тое, што адбывалася на гэтай, з аднаго боку шматпакутнай, а з іншага боку такой шчодрай, багатай на таленты, асобы і прыгоды зямлі. Шмат скарбаў і багаццяў, як матэрыяльных, так і духоўных, страчана праз смугу стагоддзяў незваротна. Шмат з іх застаецца вакол нас нязведанымі і неацэненымі. Часта ў самых простых рэчах, прыродных ці архітэктурных помніках прыхаваны цікавыя факты, адметныя падзеі, унікальныя з'явы.

У свой час мне давялося папрацаваць у музеі гісторыі рэлігіі, які тады месціўся ў старадаўнім гарадзенскім кляштары. Многія гарадзенцы ведаюць пра тое, што ў ім жыла Белая дама. Легенду гэтую апісаў у сваім творы пісьменнік Аляксей Карпюк, які якраз быў першым дырэктарам музея, у сваім творы, які так і называецца „Белая дама". Некаторыя з маіх калегаў сапраўды бачылі гэты прывід. Асабіста мне не пашанцавала, ці наадварот пашчасціла. Аднак адчуванне нейкай загадкавай аўры, заўсёднай прысутнасці звышнатуральнага там сапраўды было, асабліва, калі даводзілася аднаму ісці па доўгім калідоры кляштарнага памяшкання. Не пакідала адчуванне, што нехта, невідочны, увесь час за табой назірае і сочыць. А аднойчы збялелы сябра, навуковы супрацоўнік, прыбег з кляштарнага корпусу і расказаў, што ў той момант, калі ён зачыніў дзверы, невядомая сіла з адваротнага боку павярнула дзвярную ручку ўверх-уніз. І ўсё яму абсалютна паверылі.

На месцы сучаснага манастыра Раства Багародзіцы ў глыбокай старажытнасці стаяла Прачысценская царква. Як выявілі археолагі ў пачатку васьмідзесятых гадоў мінулага стагоддзя, крыху пазней былі створаны адмысловыя калодзежы для агляду старажытных падмуркаў. Калі пасля музея ў будынак прыйшоў манастыр, неўзабаве гэтыя шурфы былі ліквідаваныя — магчыма яны супярэчылі нейкім канонам.

Першы кляштар базыльянак на гэтай тэрыторыі быў драўляным, яго знішчыў пажар. Пазней у 1726-1751 гадах паводле праекта італьянскага архітэктара Іосіфа Фантаны быў узведзены новы, ужо мураваны, кляштар. У 1860-я гг. комплекс перайшоў да праваслаўнай канфесіі, тады ж была прыбудаваная царква св. Сергія Раданежскага. У савецкі бязбожны час на сценах храма віселі матацыклы — тут была адпаведная школа. Ужо калі засяліўся музей, у ім размясцілі мадэль спадарожніка зямлі, які мусіў дэманстраваць вяршэнства атэістычнага мыслення. Пазней нехта разумнейшы схамянуўся і вялікую жалезіну перанеслі пад кінатэатр „Космас", у цяперашні час яе ўжо няма.

У апошнія гады дзейнасці тут музея гэта быў сапраўдны экуменічны асяродак і месца правядзення канцэртаў класічнай музыкі. Сёння ў будынку кляштара праваслаўны жаночы манастыр, а ці засталася там Белая дама, невядома.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

**Арганізаванне супольнага калядавання ў Чаромсе стала традыцыяй. Цыклічная імпрэза запісана ў календары мерапрыемстваў Гміннага асяродка культуры пад назвай „Вечар калядак”. Сёлета мерапрыемства праходзіла ў нядзелю 22 студзеня. Надвор’е паспрыяла. Не было мяцеліцы і лютага марозу. Арганізатары задбалі аб рэкламу. На паўгадзіны да пачатку канцэрта ўсе месцы ў зале былі заняты. А людзі падходзілі і трэба было дастаўляць крэслы. Ганаровае месца ў першым радзе занялі праваслаўныя святары з Чаромхі-Станцыі і Кузавы ды войт гміны Юры Шыкула. Канцэрт пачаўся ў 17 гадзін. Ролю вядучага выконвала дырэктар ГАК Барбара Кузуб-Самасюк.**

Тэкст і фота Уладзіміра СІДАРУКА

# Вечар калядак



Канцэрт пачаўся з выступлення духавога аркестра. У яго выкананні прагучалі тры каталіцкія і праваслаўная калядкі: „Wśród nocnej ciszy”, „Pójdźmy wszyscy do stajenki”, „Dzisiaj w Betlejem” і „В Вифлееме ныне новина”. Затым выступілі малечы з прадшколля, якія запрэзентавалі пастаралку „Пастушок босы” і калядку „З Новым роком”. Варта адзначыць, што ў сёлетнім канцэрце выступілі калядоўшчыкі розных узростаў: ад дашкольнікаў да сеніёраў. Да апошніх трэба залічыць Марыю Кердалевіч з вёскі Чаромхі. Бабуля, якой больш за восемдзесят гадоў, не толькі штогод удзельнічае ў „Вечары калядак”, але і выязджае з гуртом на фалькавыя канцэрты, арганізаваныя ў наваколлі. Сёлетні рэпертуар быў багаты і разнародны. У большасці прэзентаваліся калядкі мне дагэтуль невядомыя. Адно жаночая група з вёскі Чаромхі запрэзентавала даўнейшую ўсім добра вядомую калядку „Нова радасць стала” і другую „Из востока”







Чарговымі на сцэну выйшлі ўдзельнікі музычнага кружка, якім кіруе Барбара Кузуб-Самасюк. Калядкі выконвалі Вераніка Маркевіч — „Jezus malusieńki”, Анна Саўчук — „Lulajże Jezuniu”, Іаанна Алексяюк — „Wśród nocnej ciszy” і Д’яна Назарук — „Wesoła Nowina”.

Парафіяльны хор царквы св. вялікамучаніцы Варвары ў Кузаве пад кіраўніцтвам Барбары Смык запрэзентаваў калядкі „Веселися Вифлееме” і „Радуйтеся всі люде”, а „Вульчанкі” з Вулькі-Тэрэхоўскай — „Ішлі тры цары” і „В стране иудейской Вифлеем стоит”. У заканчэнні Валянціна Верамчук павіншавала публіку з наступіўшым Новым годам, пажадала моцнага здароўя і шчасця ў сямейным жыцці, ды выказала спадзяванне, каб за год яшчэ раз спаткацца на святочнай імпрэзе. Публіка прыняла выступленне бурнымі апладысментамі. Трэба адзначыць, што кожнае выступленне паасобных калектываў узнагароджвалася такімі ж воплескамі. А гурты перамяняліся быццам у калейдаскопе. Адны сыходзілі, іншыя займалі месца на сцэне.

Вучні Пачаткавай школы ў Чаромсе апрача батлейкі „Вэртэп” запрэзентавалі калядкі „Ой, підем, пане брате”, „У містечку Віфліємі”, і „Ой, у полі, полі”. Са святочнай батлейкай выступілі таксама гімназісты. Парафіяльны хор царквы Маці Божай Мілуючай у Чаромсе пад кіраўніцтвам а. Мікалая Беламызага выканаў тры калядкі: „Ангелы в небе”, „Спи, Ісусе, спи” і „Бог прырода”. Канцэрт завяршыўся выступленнем „Гілочкі”, якая выканала калядкі „Добрый вечір тобі”, „А вчора звечора” і „Стари рік минає”. Калектывам кіруе настаўніца Ірэна Вішанка. Гурт існуе пятнаццаць гадоў і дабіўся значных поспехаў. На развітанне калядоўшчыкі „Гілочкі” павіншавалі публіку з Новым годам. На гэтым закончылася мастацкая частка. Затым слова ўзяў войт Юры Шыкула. Падзякаваў ён арганізатарам за падрыхтоўку мерапрыемства, удзельнікам — за выступленне, а ўсім жыхарам Чаромхаўскай гміны пажадаў усяго найлепшага ў Новым годзе.

## Адгаданка

| | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | 1 | | 2 | | | | | 3 | | 4 | | | | | | | | 5 | | 6 | | | 7 | | | 8 | | 9 | | |
| | 10 | | | | | | | | | | | | | | | 11 | | 12 | | | | | | | | | | | | | | |
| | | | | 13 | 14 | 15 | 16 | | 17 | | | | | 18 | | | 19 | | 20 | 21 | | | | | | 22 | 23 | | | | 24 | |
| | | 25 | | | | | 26 | | | | | 27 | | | | | | | | 28 | | | 29 | | | | 30 | 31 | | | | |
| | | | | | | 32 | | | | 33 | | 34 | | | 35 | | | | | | | | | | 36 | | | | | 37 | | |

1. расліна з моцным пахам і горкім смакам (*Artemisia absinthium*), 2. у граматыцы мужчынскі, жаночы і ніякі, 3. прозвішча аўтара „Альпійскай балады”, 4. конскі злакавы ласунак, 5. невялікая карабельная шлюпка, 6. спартыўнае збудаванне з ігравым полем і трыбунамі для гледачоў, 7. адзначае імяніны 20 жніўня, 8. сталіца Індыі, 9. сталіца Украіны, 10. люты бандыт, 11. травяністая расліна з белым сокам (*Taraxacum*), 12. дзяржава з Лілонгве, 13. побач прозвішча, 14. марка савецкага матацыкла з Іжэўска, 15. вялікая еўрапейская рака, 16. вялікая сібірская рака, 17. вялікі італьянскі горад, 18. квадратны корань з чатырох, 19. муж якуткі, 20. старажытнагрэчаскі бог падземнага свету, 21. мангольскі ўладар, 22. лік, роўны адносінам даўжыні акружнасці да яе дыяметра, 23. месца для змагання баксёраў, 24. яе мерай біты і байты, 25. левы прыток Сажа з Суража, 26. падаючая зорка, 27. залацісты пахмельны напой, 28. буйная марская жывёліна з вялікімі ікламі, 29. у каровы з саскамі і малаком, 30. нязладжанае гучанне, 31. архітэктурны стыль злому XIX і XX стагоддзяў, 32. заняпад, 33. рогат, 34. колішняя польская сталіца, 35. яе беларусы вараць, жараць і г.д., 36. побач бабы, 37. брат Авеля.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — страфу Раісы Баравіковай. **(ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 1 нумара**

Вожык, звер, плён, Галаад, заняпад, рытм, камзол, Варанасі, прас, каза, ярмо, смак, мі, на, мора, Уй, Ляўкова, рак, кіно, аул, Масква, розум, ь, лой, пі, Алесь, жаніх, тыран, ям, муза, Гоа, дзёран, Ваал, Іа, асёл, рэзерв, сват, бліц, гімнастыка, камень, бой, гонта, Ге, Авель.

Рашэнне: **Жыве спакойна вол пад тым ярмом сваім, намуляў карак: мазолі, скрозь мазолі; падкінуць сена жмут — яму й таго даволі, і лёс мізэрны свой не назаве благім**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Мікалаю Сазановічу** з Навін-Вялікіх і **Аляксандру Дабчынскаму** з Беластока.

# 05.02 — 11.02

**(22.03. — 20.04.)** Абдумай пару спраў, пакінь тое, што не праверылася. Больш міралюбівым станеш пасля 8.02. З 7.02. пачынаецца шчасце ў любові і фінансах, вельмі добрыя акалічнасці. Ды 5-9.02. могуць паявіцца канфлікты з людзьмі; не абражвай спрыяючых табе. Вельмі дбай аб свае вантробы асабліва 7 лютага.

**(21.04. — 21.05.)** З 8.02. з вялікім энтузіязмам возьмешся за новыя выклікі. Прыбудзе табе абавязкаў, ды справішся з імі. Сустрэнешся з прызнаннем і атрымаеш экстрапрэмію. Зоркі 8-12.02. падтрымліваюць твае сардэчныя справы; добрае паразуменне, новыя знаёмствы. Увесь месяц добры час на заснаванне сваёй фірмы.

**(22.05. — 22.06.)** Першая палова лютага вельмі ўдалая асабліва ў кантактах, супрацоўніцтве. Прыхіліш да сябе супрацоўнікаў, зробіш добрае ўражанне на кіраўніцтве і партнёрах у бізнесе. Завядзеш парадак у штодзённых справах. Дасягнеш таго што хочаш, станеш перадавіком. Ды 5-9.02. можаш „пераехацца” — залёгка паверыш у сваю геніяльнасць.

**(23.06. — 23.07.)** Вернецца твой энтузіязм. Увесь люты запісвай свае сны — могуць быць прароцкія. Выкарыстоўвай шанцы, якія паявяцца нечакана. Бяры голас у публічных справах і не адмаўляйся сказаць „не”. Уся першая палова лютага — найлепшы час, каб заняцца практычным бокам жыцця.

**(24.07. — 23.08.)** Крыху завіраванняў у сямейных справах. У першай палове лютага шчаслівa ў штодзённых, звычайных справах, удалыя інтарэсы, нават калі ў чымсьці будзеш неразважлівы. 7 лютага займіся сваім здароўем, задбай аб дыету і прыслухайся свайму арганізму; калі што — бяжы да лекара (будзеш у слабейшай форме аж да 19 лютага!).

**(24.08. — 23.09.)** Будзеш тытанам працы, з усім справішся, ды хутчэй цябе не пахваляць (ды ж будзеш працаваць не для гэтага). Нават калі больш заробіш, не будзеш раскідацца грашыма. Прыпомняцца сябры і далёкія знаёмыя. Вельмі зважай на тое, што цяпер ясі — можа пагоршыцца ў тваіх стрававальных шляхах.

**(24.09. — 23.10.)** 6-12.02. прадбачваюцца вельмі харошыя лады ў пары. Вольныя Шалі могуць сустрэць сваю другую палавінку. Ад 8.02. вельмі добрыя адносіны з атачэннем. У найцяжэйшых негацыяцыях даб’ешся свайго. Хоць розум часам будзе гаварыць сваё, а сэрца сваё — твае рашэнні будуць слушныя.

**(24.10. — 22.11.)** Добры час на падарожжы. Здаровае сапернічанне, але толькі на працы (там вельмі мілая атмасфера).Можа прытрапіцца знакамітая нагода заробку. Ды найважнейшыя для цябе — дом і любоў. Можаш апынуцца ў абдымках суджанага; з гэтай асобай пачнеш новы раздзел жыцця. Поўня Месяца 7.02. усвядоміць табе, што не можаш пагаджацца на ўсё; калі паставішся шэфу, не будзе сімпатычна!

**(23.11. — 22.12.)** Магчымы непрадбачаныя выдаткі. Добры час на сустрэчы ў шырэйшым крузе, сяброўскім і сямейным; папраўяцца кволыя сувязі. Пільнуй страўніка — цяпер схочацца табе добра паесці і выпіць.

**(23.12. — 20.01.)** Будзеш адважны і ўдачлівы. Бярыся за вялікія задумы, бо маеш шанц шмат дасягнуць. Увесь люты гэта месяц зараблляння (шмат дробных прапаноў або вялікае даручэнне) і выдавання. 7.02. не ангажуйся ў нявызначаныя бізнесы, не бяры нічога ў крэдыт. Ад 7.02. жыццё будзе табе здавацца крыху нудным і малатворчым, ды што зробіш... Ад другога тыдня твой аазіс — дом.

**(21.01. — 19.02.)** Дасканалая форма — пік аж да 19 лютага! 6-10.02. пачуеш шмат цёплых слоў не толькі ад сяброў. 8-12.02. будзеш маэстра ачаравання (асоба дасюль непрыступная паддасца!). Ды 7.02. блізкія асобы могуць раптам узбунтавацца, стануць наперакор тваім планам.

**(20.02. — 21.03.)** Крыху рэфлексіўны настрой, ды выйдзеш да людзей з ценю і пакажаш сваю сілу. Дасі рады ўсім выклікам. Вельмі добры час для духоўных пошукаў. 7.02. вельмі дбай аб сваё здароўе; як толькі адчуеш сябе горш — бяжы да лекара!

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.iig.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.iig.pl*
*Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.*
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Ілона Карпюк, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
Termin przyjmowania wpłat do 5-go dnia każdego miesiąca poprzedzającego okres rozpoczęcia prenumeraty.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „RUCH” i „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Cena prenumeraty kwartalnej: I kwartał — 32,5 zł., II kwartał — 32,5 zł., III kwartał — 35,0 zł., IV kwartał — 32,5 zł., rocznej — 132,5 zł.
**Prenumerata z wysyłką za granicę**
Wpłaty przyjmuje „RUCH” S.A. ul. Annopol 17a, 03-236 Warszawa; telefony: +48(22) 69-36-775, +48(22) 69-36-782, +48(22) 69-36-718; www.ruch.pol.pl
**Prenumerata w redakcji**
Planowana ilość numerów „Niwy” w 2012 roku — 53.
**Przesyłka zwykła:** Cena 1 egz. wraz z wysyłką w kraju wynosi 4,2 zł.

**Wpłaty przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945

**Nakład**: 1 300 egz.

**Хрышчэнне Гасподняе — адно з чатырох праваслаўных святаў, якое традыцыйна святкуецца ў нас, а прынамсі ў вёсках вакол Гайнаўкі і Бельска, тры дні. У першых стагоддзях хрысціянства Ражджаство Хрыстовае і Хрышчэнне Гасподняе адзначаліся супольна, але і пасля іх раздзялення захавалі падобнае значэнне. Нават і цяпер людзі масава наведваюць цэрквы на першы дзень Вадохрышча, каб памаліцца і прынесці дамоў асвячоную ваду, якая мае асаблівую моц. У мінулым, калі была такая магчымасць, ваду найчасцей асвячалі ў крыніцах або рэчках. Святкаваннем Хрышчэння Гасподняга спадарожнічалі калядкі. Аб'яднанне „Музей малой айчыны ў Студзіводах" рашылася вярнуцца да даўніх традыцый і з 20 па 22 студзеня наладзіла „Сустрэчы на Вадохрышча".**

# Сустрэчы на „ВАДОХРЫШЧА"

Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА



На першы дзень мерапрыемства моладзь з Узорнага фальклорнага калектыву „Дараносіца" з Хмялева (Рэспубліка Беларусь) і 3 асобы з „Хмялеўскіх валацюгаў" у Падляшскім доме праваслаўнай культуры ў Бельску-Падляшскім вучылі „Жэўжыкаў" з бельскай „тройкі" і студзіводскую „Жэмэрву" традыцыйным беларускім танцам, а дзеткі і моладзь з бельскіх калектываў вучылі сяброў з Беларусі спяванню традыцыйных калядак. Пасля супольна спявалі яны калядкі, даўнія песні і танцавалі. У чарговыя дні згаданыя беларускія калектывы паехалі па вёсках, каб прыпомніць вяскоўцам даўнія традыцыі і развесяліць іх у час Хрышчэння Гасподняга, радаснага, зімовага святкавання.

— Майстар-класы па традыцыйным спеве мы штогод праводзілі ў час зімовых канікулаў. Сёлета рашыліся спалучыць іх са святкаваннем Хрышчэння Гасподняга, якое ў нас таксама называецца „Вадохрышчам", каб была нагода прайсціся з карагодамі па вёсках. З калектывамі з Хмялева супрацоўнічаем ужо ад нейкага часу. Рашылі мы запрасіць „Дараносіцу", якая выступала ўжо ў Студзіводах. Час Хрышчэння — добрая нагода паказаць даўні абрад „хрыстка", які захаваўся ў нас толькі ў Арэшкаве і ведомы ён толькі старажылам, — сказаў фальклярыст і гісторык Дарафей Фіёнік, старшыня аб'яднання „Музей малой айчыны ў Студзіводах".

Хаця абрад „хрыстка" ў галоўным меў быць запрэзентаваны ў Арэшкаве, дзе яшчэ быў жывым у пасляваенны перыяд, то паказалі яго таксама ў час карагода ў Грабаўцы і Махнатым.

— Мы пад вялікім уражаннем ад майстар-класаў і наведвання вашых вёсак. Мы тут адчуваем сябе як дома, так як бы ўвогуле не перасякалі мяжы. Спяваюць тут і гавораць падобна як у нас. Людзі прымаюць нас вельмі шчыра і з любоўю. Мы звыкліся выступаць у сябе на сцэне, а тут нам вельмі цікава хадзіць па сёлах і калядаваць. У нас ёсць вельмі добры кантакт са слухачамі, цешыць



Удала калядавалі бельскія „Жэўжыкі"



Каляднікі з „Дараносіцы" (на першым плане) і „Жэмэрвы" (на другім плане) запрэзентавалі традыцыйныя калядкі і калядныя абрады

нас вялікае зацікаўленне нашым спяваннем. Калі мы, напрыклад, большым тэмпам ішлі па Грабаўцы і некаторыя жыхары не паспелі выйсці на вуліцу і паслухаць нашае калядаванне, то даганялі нас уподбежкі, каб паслухаць нашы спевы, — сказала Таццяна Грыцюк, мастацкі кіраўнік „Дараносіцы" і заадно спявачка ў „Хмялеўскіх валацюгах". — Нашым дзеткам таксама вельмі цікавымі былі майстар-класы, дзе яны пазнаёміліся з маладымі людзьмі з Бельска. Нашы хлопцы бралі да танцаў вашых дзяўчат, а нашыя дзяўчаткі танцавалі з вашымі хлопцамі і завязалася сяброўства. Калі мы вернемся дамоў, нашы вучні яшчэ доўга будуць жыць пабыўкай у Польшчы і расказваць сваім сябрам як тут спявалі і танцавалі.

— Нам цікавыя і майстар-класы, і калядаванне па вёсках, дзе мы вучымся таксама новаму, супольна спяваем і адпачываем, — сказаў Ілья Грыцюк з „Дараносіцы".

Людзі з Грабаўца, Дубіч-Царкоўных, Махнатага і Арэшкава са здзіўленнем глядзелі на маладых людзей, якія дарылі ім дубовыя галінкі з лісткамі і даволі хутка спявалі песню „Панна Марыя на прыстолі стояла", якая ведомая таксама з кніжкі „Як выскочыв воробієй", выдадзенай у 2008 годзе Музеем малой айчыны ў Студзіводах. Надзея Грушэўская, кіраўнік „Арэшкаў", з настальгіяй успамінала пра сваё дзяцінства і час, калі, будучы малодзенькай дзяўчынкай, бегала са сваімі сяброўкамі на „Вадохрышча" па хатах і раздавала людзям упрыгожаныя дубовыя „хрысткі".

— „Хрыстох" гэта дубовая галінка з засушанымі лісткамі і каляровай стужкай. Дарыўшы яго ў паасобных хатах, мы спявалі з асаблівым напевам песню „Панна Марыя на прыстолі стояла". За гэта давалі нам аладкі, цукеркі, іншыя ласункі і мы беглі да чарговай хаты. Калі мы ўжо падраслі, перасталі калядаваць у час Хрышчэння Гасподняга. Моладзь калядавала ўжо толькі ў час Ражджаства Хрыстовага. За закалядаваныя грошы мы на Хрышчэнне заказвалі літургію ў царкве, давалі грошы на ўпрыгожанне храма і ладзілі гасціну ў гэты дзень. Маладыя сужонствы таксама яшчэ калядавалі, а сабраныя грошы перадавалі ўжо толькі ў царкву, — успаміналя Надзея Грушэўская. — Добра, што Дарафей Фіёнік рашыўся аднавіць абрад „хрыстка", які зараз прызабыты. Маладшыя жыхары Арэшкава таксама яго не ведаюць. Добра таксама, што ў нашых сёлах ладзіцца спяванне даўніх калядак, у традыцыйным выкананні, бо зараз дзеткі і моладзь калядуюць з больш сучаснымі напевамі. Нам, старэйшым, таксама цікава паслухаць калядкі ў выкананні юных каляднікаў з Беларусі і Бельска, бо „Арэшкі" ўжо закончылі дзейнасць і няхай малады падмяняюць нас у прэзентаванні фальклору.

Каб жыхары Арэшкава выходзілі на вуліцу вітаць каляднікаў, мерапрыемства заказаў раней арэшкаўскі солтыс і заадно гмінны радны Мікола Жменька. Людзі маглі паслухаць калядавання ў стройнай беларускай кампаніі і ў прыгожым выкананні. Карагод прайшоў таксама па Махнатым. У Дубічах-Царкоўных і Махнатым у святліцах адбыліся канцэрты традыцыйнага фальклору. З калядкамі, каляднымі абрадамі і танцамі выступілі дзеткі і моладзь з Хмялева і Бельска. У Дубічах да іх далучыўся мясцовы жаночы прыхадскі хор. Калядаванню ў вялікай грамадзе прыглядалася таксама шматлікая публіка са згаданых вёсак і суседніх сёлаў. Публіка хваліла выступаючых за прыгожы спеў і даўнюю вопратку, у якой выступілі спявачкі з „Жэмэрвы", Дарафей Фіёнік і яго сын Максім. Кажухі, валёнкі, даўнія саяны, блузкі, хусткі ці шапкі звярталіся непасрэдна да мясцовых традыцый. Калядкі-пажаданні для нованароджанага дзіцяці і маладажонаў былі невядомымі нават для некаторых старэйшых жанчын. Каляднікі з Хмялева і Бельска заехалі таксама з калядаваннем да Пятра Багацэвіча з Крывятыч, у якога заказалі звязду. Пасля калядавання падарылі яе „Дараносіцы".

— У час нашых мерапрыемстваў мы стараемся выходзіць з калядаваннем да людзей, так як было ў мінулым. Ладзілі мы ўжо раней калядны карагод у час міжнароднага мерапрыемства ў Чыжах. Арганізуем таксама выступы на сцэне, каб запрэзентаваць публіцы больш народнай творчасці, — сказаў Дарафей Фіёнік. — Шкада толькі, што ў нас амаль не захаваліся хрышчэнскія калядкі. Затое ў нас (побач Бельска — А. М.) захаваўся на Вадохрышча абрад рысавання крэйдай крыжоў на галоўных дзвярах жылых і халодных будынкаў і пісання літар „С. В.", што тлумачыцца — Святое Вадохрышча. Гэтая традыцыя, падобная на каталіцкую, якой на ўсходзе Еўропы не было, у нас замацавалася.



Вяскоўцы атрымалі „хрысткі" (упрыгожаныя дубовыя галінкі)

Суарганізатарамі мерапрыемства побач аб'яднання „Музей малой айчыны ў Студзіводах" былі Фонд дамоў праваслаўнай культуры, Праваслаўны прыход і Гмінны цэнтр культуры ў Дубічах-Царкоўных, вясковая супольнасць і вакальны калектыў з Махнатага. Спатканні адбыліся ў рамках беларускіх этнаграфічных майстар-класаў Студзіводскага музея, якія фінансава падтрымала Міністэрства адміністрацыі і лічбавізацыі.

ISSN 0546-1960